# Алесь Гарун

# Матчын дар

## Думы і песьні
## 1907–1914



Менск 1918 г.

Лит. Данцига, Минск

*Вершы, умешчаныя у зборніку «Матчын дар», напісаны аутарам у няволі,—у пэрыодзе 1907—1914 г. г. У пачатку ліпня 1914 году зборнік быу перасланы с Сыбіры для друку у Вільню, дзе яго выданнем хацело заняцца «Беларускае Выдавецкае Таварыство». Але паустаушая тагды вайна адсунула выйсьце кнігі на цэлых 4 годы.*

**Выдавецкая Комісія.**

Гэту першую кніжку
думак і песьняў сваіх
матцэ сваей прысьвячаю.

# Людзям.

Люблю і я скляпенне зор,
Люблю зямлі абшар,
І роуны луг, і узгібы гор,
І шум лясны, і гвар.
Люблю жыцце, а у ім людзей
І кшталты іхніх душ,
Люблю вянкі плясьці з надзей,—
А ні поэт.—Чаму-ж?

Часамі праца у дзень кіпіць,—
Цярплю і я прыгон,—
Аж косьць аб косьць у плячу рыпіць..
Пачуеш у сэрцы звон...
Ухопіш зык, за ім другі,
За тымі больш ідуць,
Зліюцца у шых даугі-даугі
І цэлы дзень гудуць.
Загасьне дзень, іду дамоу,
Кладуся спаць,—і у ноч
Цякуць радкі зьвінючых слоу
І сон адходзіць проч.
Тагды пішу. Перад вачмі
Нясецца зданняу рой
І хтось стаіць па-за плячмі,
Здаецца, блізкі, свой.
Абыйме шыю пара рук
І кос дзявочых шоук,
Узмацніцца у сэрцы мерны стук,
А звон у душы ні змоук...
Зірну: пакой пусты, німа...
А час сьлізнуу, як вуж.
І за вакном радзее цьма...
А ні поэт...—Чаму-ж?

Бо мой прыгон глытае час,
Мне воля — рэдкі дар.
Такіх поэтау шмат у нас,
Дзе сам народ — песьняр.
Сваіх тут жменьку я сьпісау
Маркотных песьняу-дум;
Маей душы іх сам сьпевау
Па краю родным сум.
Скажу ішчэ чаго-б хацеу:
З дзявочых вуст пачуць
Хаця-б адзін мой бедны сьпеу,
Хаця-б калі нібудзь!

* * *

Чаму з маленства, з ураджэнства,
У жыццевы май,
Ні умеу, як маці, шанаваці
Цябе, мой край?
То-ж я с тваею ключавою,
Сьвятой вадой,
Напіуся болю аб нядолі,
Бядзе людзкой.
То-ж ты, мой хмуры, дау мне пануры
І ціхі гнеу,
А днем падчасным, так пекным, ясным,
Надзею грэу.
Твае-ж курганы, лясы, паляны,
Дубкоу тых шум,
Палеу абшары, люд бедны, шары,
Мне далі дум.
А дум тых многа... Не, ні убога
Ты дау мне іх
І ты-ж, як маці, научыу сьпеваці
Аб думах тых.
Я брау, ні бачыу і ні аддзячыу
Табе нічым,
Бо счараваны —цябе, укаханы,
Ні знау саусім.
Цяпер хоць знаю, дык што ж параю
Ад позьніх скрух?
У чужой краіне паволі гіне
За целам—дух.
Вазьмі-ж хоць сьпевы, дум перапевы
Лясоу тваіх.
З тваеі глебы, з тваега неба
Узяу я іх.

# Начныя думкі.

Часам я у ночы сны дзіуныя бачу:
Роіцца нейкі нізьведаны край,
Повен то шчасьця, то жаласьці, плачу,
То зло-хмурлівы, то сьветлы, як рай.
Бачу вялікія стэпы з-над Немна;
Туліць у сьлезах матуля сынка;
Сьцелецца пушча глухая і цемна;
Косьці з магілы глядзяць бедака...
Бачу я жоутае жытняе поле,
Коласам ціха шуміць-шэлясьціць;
Межы, курган векавечны і хвоя;
Каня з аднэю малітваю „піць".
Траука у ляску у цяню вырастае,
Корміцца сокам зямелькі сырой:
Птушка шчабечэ—людзей пацешае:
Льецца крынічка, плюскочэ вадой.
Ночкай ля рэчкі раздольна, прывольна!
Гуртам русалкі сьмяюцца, пяюць,
Кветкі купальскай шукае бездольны;
З зеллям шаптухі паціху снуюць...
Хочацца быць мне у тым краю нізнаным,
Хочацца край той абняць с прастаты,
Хочацца крыкнуць: гэй, краю каханы,
Будзь мне, як маці, будзь родным мне ты!
Дай мне зрабіцца крынічкай лясною,
Бераг вадой абмываць, цалаваць;
Дай мне век цэлы дружыці с табою,
Хвойкі і зоры у сабе адбіваць.
Дай мне купальскую кветку у рукі,
Путы жалезныя мне развяжы,
Дай ты мне зелля на горо і мукі,
К шчасьцю гасьцінец мне дай, пакажы!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ціха. Нічога ні чую, ні бачу.
Роіцца толькі нізведаны край,
Повен то шчасьця, то жаласьці, плачу,
То зло-хмурлівы, то сьветлы, як рай..

* * *

Як надарыцца мінута.
Што ад працы адарвуся,
І жыццевая атрута
Ні пячэць, і прахаплюся,
Дык цябе, мой Родны Краю
Шчырай думкай аблятаю.
    Ты нішчасны і убогі,
    Ты бяздольны і забіты,
    Ты без шляху. без дарогі,
    Ты абдзерты і прапіты,
    Подлай здрадаю прADаны.
    Ты ні свой,—дауно забраны.
Меу вялікія клейноды.
Быу і моцны і багаты,
—Задзіуляліся народы—
А дазнауся горкай страты.
Сохнеш, вянеш,—вокам кіну,
Аж здаецца. што загінуу...
    А як сонейко устане
    І прыемна усьміхнецца,
    Па палетках, на кургане
    І па весцы разліецца,
    Як паводка. Родны Краю,
    Над цябе тагды ні маю....
Ты квяцісты, залацісты,
І прыгожы, і аздобны,
Ты лясісты, каласісты,
—Можа рай табе падобны—
Колькі-ж моцы маеш скрытай,
Колькі сілы ніспажытай!
    Ты паустанеш, працавіты,
    Гаратнічы, нівымоуны,
    Шчасьця, долі прагавіты,
    Мой сланэчны, мой чароуны!
    Будзе час, пабачуць сьведкі,
    Хоць ні мы, дык нашы дзеткі.

* * *

Хай ні льюцца дажджы цемна-хмарныя
Над зьмярцьвелаю пашаю.
Хай пачнуцца гады хлебадарныя
Над зямелькаю нашаю.
Хай красуецца жытам, пшаніцаю,
Каласочкамі цяжкімі,
Хай узмацуецца Боскай правіцаю
І Усетворчымі ласкамі.
Хай асьвеціцца праўды навукаю
І братэрскаю згодаю,
Хай зьнівечацца крыуда с прынукаю
За яе загародаю,
Хай узлятаець хвала яе племяні
Упякненаго цнотамі,
Хай шыбаець над скаламі с крэмяню,
Над арлінымі узлетамі.

* * *

Мілая, родная старонка — маці!
Моцна цябе я і шчыра люблю,
Бедныя ніукі твае, сенажаці
І нішчасьлівую долю тваю.

Горам, матуля, цяпер ты замучана,
Стогнам спавіта у сець з ланцугоу,
Рукі і ногі да слупа прыкручаны,
Ціха наругу ты зносіш, без слоу.

Толькі ж уцешся, матуля каханая!
Слуп твой патроху пачау падгніваць,
Прыдзе к нам воля, сьвятая, чаканая,
Сець з ланцугоу як пачнем разрываць.

# Воукалакі.

Воукалакі цемна ноччу
З дамавін выходзяць
І лятаюць скрозь па сьвеці,—
Сабе жэр знаходзяць:
Дзе старое, ці малое,
Сьпіць у сьне глыбокім,
Воукалака падсьцігае
Нінасытным вокам.
Ні пачуеш. як узьляжэ
На грудзях навала,
Ні пачуеш, як ен с сэрца
Выссе кроу памалу.
Галасіста ж па сьвітанню
Засьпеваюць пеуні—
Воукалака адлятае
Ніахвотна, гнеуны.
Па старонцы роднай здауна
Воукалакі ходзяць,
Але ж пеуні ні сьпеваюць,
—Слонко ні узыходзіць!...

# Іванку.

Слухай, Іване, паночку.
Кепска ты робіш, браточку:
Хіба-ж ні сорам так жыць,
Гэткім нідбайлівым быць?
Узглянь навакол на суседау,
Некалі добра іх ведау—
Хто з іх спусьціуся, як ты,
Мае с твае беднаты?
Хіба-ж яны галадуюць,
Хіба-ж па-твойму бядуюць?
У іх і апратачка есьць,
І часам пакорміцца госьць.
Гэта ж дзе людзі зьбяруцца,
Зараз с цябе пасьмяюцца,
Кажуць «гультай, абібок.»
Так яно, мой галубок!
„Бацька яго у гаспадарстве
Быу, як бы цар у сваім царстве:
Быу у гаспадарачцэ лад,
Мелося воко, дагляд...
Быу чалавек яго татка!
Ен жэ: дзівіся, апратка
У дзюрках, у гнідзе, сьцвіла,
У хаці— трава абыйшла.
Нейкае дзіво, ды й годзі!“
Часам жартуюць у народзі—
„Моцны гультай. моу-ся, вол,
К працы-ж пагнаць—трэба кол.“
Чуеш ты, чуеш Іванка,
Што у людцоу за гуканка?
Слухай, над кім гэты сьмех?
Грэх табе, братачка, грэх!...

* * *

*У чатырохлецце „Н-е Нівы.“*

Ты, мой брат, каго звацъ Беларусам,
Роднай мовы сваей ні цурайся;
Як ні зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер ні зракайся.
Ад дзядоу і ад прадзедау, браце,
Гэта скарб нам адзін захавауся,
У селянскай аграбленай хаце
Толькі ен нізабраны астауся.
У старыну Беларус. ні падданы,
Гаспадарыу, быу сам над сабою
І далека у сьвеці быу знаны
За літоускай і ляшской зямлею.
Але час прамінуу, і нядоля
На народ, як бы камень, звалілась,
Беларуская слава і воля
Адыйшла, адцьвіла, закацілась.
Ні зьменяючы шэрай эпраткі,
Працавау ты, як вол, гаратліва,
А у хаці тваей нідастаткі,
А на ніве тваей ніурадліва.
А чаму? Ты ні здольны, ці хворы,
Ці благі гаспадар, ці пьяніца?
Мусіць не! Бо і іншым у пору
У цябе гаспадарыць научыцца.
Сьветлы розум твой, брат, але дзетак
Ад цябе, як і усе, адбіралі
І на бацькаускі родны палетак
Працавацъ—памагацъ ні пушчалі.
Хто хацеу, той і сьмеу рабаваці,
Без прыпросу з‘ежджаліся госьці —
Абдзірацъ, аб‘едацъ апіваці
І крышыць гаспадарскія косьці.

Можа-б ты і памер і загінуу,
Каб ні вешчая мова Бояна.
Хто ж быу, добры, яе хоць пакінуу?
Як жэ так, што яшчэ ні забрана?

Бо што бачылі госцікі-гэрцы
І зямлю, і лясы, і кілімы,—
Усе забралі. А мову у сэрцы.
У сваім сэрцы хавалі-нясьлі мы.

Дык шануй, Беларус, сваю мову—
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацця-народы!

# Юдам.

Да вас, паны, што голасна крычыце
Аб прыязьні сваей да „беднаго народу,“
Што раіце па ліссему: „маучыце,
Ніудоуга вам дамо багацтво, волю, згоду“,—
Да вас мой гэты верш і словы усе благія,
Бо словам вы адны, а справамі—другія.
«Багацтво вам»... Німа вам нашай веры!
Бо у той-жа год ліхі, як у полі ні урадзіло,
Галоднаму на прокарм хлеба меры
Аднэй ні далі вы. І злаялі няміла....
Калі для нас жадаеце багацтва,
На што з бездольнаго зьдзіраеце апратку?
На што-ж тагды вы плодзіце жэбрацтво,
Да мы пустошучы без ліку, без астатку?
„Мы волю вам“.... Проклянцце вам і з ею!
Чаму ад волі вашай мы стагнаць павінны?
Яна ланцуг над нашаю зямлею;
Астрог на наш народ спакойны і безвінны.
Ні воля гэта! Што нам ні цьвярдзіце,
Мы вольнымі былі за даунімі часамі.
Ідзіце-ж проч! і з воляю ідзіце!
Да волі знанае хутчэй мы прыдзем самі.
„Мы згоду вам“... Пакіньце ашуканство!
Вы—бойкі братняе чарнейшыя пракорі,
Без звады вам, нашэптау, падтыканства,
Нямілы Божы сьвет, ні ясны, ні шырокі.
Ні просім вас! ні трэба вашай згоды!
Свае вялікае, дзядоускае багацце
Хаваем мы; ад Бога усе народы
І бацькі аднаго усе дзеці – людзі, брацця.
Адкуль вы к нам? Чыйго племя і роду?
З якіх краеу прыйшлі без прауды і без сэрца?
І што вам з нас, ад нашаго народу?
Чаму так жычыце яму хутчэй памерці?

Га! Знаем вас, атручэння наймiты:
Вы—служкi чорныя Ясьнейшага Мамона,
Вы—мора бруд ля берагу намыты;
Без дум i без мазгоу, вы—золато без звона.
З усiх бакоу на послугi уцiску
Чаргою воучаю зьяуляецесь усюды,
Дзе клiчуць вас для крыуды, для нацiску
На прауду вечную... Вы .. iмя вам Юды!
Iдзiце-ж проч! Безплодна ваша трата
На ласкi лiссiя. Пакiньце слово „брат"!
Вы цяжкi сон. Каты... Вы горэй ката!
Кругом праклятыя, вам бацька, брат—дукат!

# Песьня-звон.

Гэй, ты маці, родна мова,
Гэй, ты звон вялікі, сло́во,
Звон магучы,
Звон блыскучы,
З срэбра літы,
З злота зьбіты,
Загрымі ты,
Загрымі!
Гэй, званар, званар мой пане,
Бій у звон, як змогі стане,
Без спачынку,
Без упынку,
Потам зьліты,
Ім умыты,—
Бій, звані ты,
Бій, звані!
Гэй, гусьляр, песьняр, мой браце,
Грай, сьпевай у полі, у хаце,
Дзе гарота,
Дзе галота,
Дзе нісыты,
Дзе ніумыты.
Ім спыні ты,
Жаль спыні!
Струны хай грымяць і рвуцца,
З болю, з гневу. Хай сьмяюцца
Разам з імі,
Ні чужымі,
Голас чысты,
Залацісты,
З імі зьлій ты,
З імі зьлій!...

*Я. Коласу.*

Усе з аднэй мы выйшлі нівы
І сейбіт нас адзін кідау,
І кожан з нас той дзень шчасьлівы
У сваей душы блогаслауляу.
А вецяр быу. І хто цяжэйшы
Астауся там, куды упау,
А хто, як я, хто быу лягчэйшы,
У далекі сьвет пamandpavau.
Бо Сейбіт есьць другі на небе,
Што судзіць нам гады і дні,—
І ты узрос на роднай глебе,
Пусьціу глыбока карані.
Здалеу, браток, на сьвет прабіцца
Спраміж сьвірэпкі і асок!
І можам мы табой гардзіцца
Прыгожы, слауны Каласок.
Цьвіці-ж, расьці, буйней на дзіво
У сямьі прыгожых васількоу.
С тваіх зернят хачу, праудзіва,
Убачыць поле каласкоу.

*У зб. „Новай песьні“.*

# Песьня.

На чужой старонаццэ
Заніпау душой
І згубіу здаровейко,
І згубіу спакой.
Ні глядзелі-б вочанькі
На нялюбы сьвет,
Маладое радасьці
Прападае сьлед.

На чужой старонаццэ
Ні цвітуць сады,
Ні сьпеваюць птушачкі,—
Ні лятуць сюды.
І чужое лецяйко
Для мяне—зіма,
І чужого соунейка
Для мяне німа.

На чужой старонаццэ
Ні шумяць лясы
І німа прыгожасьці
У палявой красы.
Замірае душачка
На чужой зямлі,
А дамоу вярнуціся
Ні у маей валі

Дзе ж вы, ніукі родныя,
І дубовы шум?
Засьпевайце голасна,
Каб пазнау, пачуу.
Усколаніце песьняю
Векавечных сноу,
Ускаланіце душачку,
Ускаланіце кроу.

# У выгнанню.

Край чужы—за веру кара—
Сьнег, мароз, ды горы.
Белы сьвет, як чорна хмара,
Заступілі горы.

Край чужы... І ты чужынец
Усім, ні свой здаешся:
Ходзіш скрозь, як той адзінец
Старакостны у лесе.

Ходзіш ты, ніякай мэты,—
Так,—абы цягацца,
Знаць сабе: жывеш яшчэ ты...
Для чаго-ж, спытацца?

Хто дябе спагадным сэрцам
Да сябе прытуле?
Хіба с стрэльбы чужаверца,
Чужаніца—куля.

Хто цябе спаткае міла.
У дом папросіць гожа?
Хіба дол, адно магіла
Разгарнуцца можа.

Што с таго – часамі сьніцца
Край, у якім радзіуся?
Толькі мусяць сьлезы ліцца,—
Лепі-б і ні сьніуся!

# Вяселле.

Гэй, гуляй, ні думай,
Ні глядзі панура!
Засьпявай, заіграй
Загудзі віхурай!

Грошы есьць! Сало есьць!
Бутэль манапалькі...
Ты ні стой, трунак свой,
Пій. гуляй і—толькі!

Былі мы .. Жылі там——
На роднай краіне...
А цяпер тут—як зьвер...
Жыцце нашэ гіне.

Гэй, гуляй, налівай!
Будзем піці, браце!
Што у нас? Цяжкі час?
Э! аб чым казаці!

Га-га га! Бач, нага
Сама у бокі скачэ,
Заіграй, засьпевай!...
Не, брат: сэрцо плачэ...

Дайце мне, дайце мне
Кварту ні пустую,——
Я мае, я свае
Сэрцо пачастую.

От дык так! От дзе смак!
Эх ты, ведзьма-доля!
Ешчэ—не, мала мне...
Налівайце болей!

Гэй крычы, ні маучы,
Сэрцу дай пацеху!
Заіграй, засьпевай,
Сьмеху, болей сьмеху!

А што?! Не, вы мяне
Ні забілі, гады!
Вось жэ пью, вось пяю
С сябручкамі радый!

Ты гуляй, ні зважай,
Што сьляза на вочу,—
Гэта так, гэта я
Весяліцца хочу.

Пій, гуляй!
Ірай. сьпявай! ..

# Журба.

Сэрцо болей ні сьмяецца,
Сэрцо плачэ жаласьліва.
Ці дасьць Бог, ці давядзецца
Быці там, дзе наша Ніва?
    Думкі, праца—усе далека!
    Песьні, казкі у пазабыццю...
    Прад сабой я толькі воко
    Бачу страшнаго нябыцця.
Волі, думак, шчасьця, сьмеху
Дайце мне! Хоць пакажыце!..
Але не... Мне на пацеху—
Воко страшнаго нябыцця.
    Я б узяу матыку у рукі,
    Карчавау-бы, чысьціу поле,
    Але—там... Я тут безрукі,
    Я безсільны. . Я без волі.
Сэрцо плачэ і я плачу;
Плачу с сэрцам галасьліва.
Дзе ты, дзе ты, краю родны?
Край далекі, маці—Ніва?

# Восень.

Восень халодная, чорная, хмурая
Сунецца ціха, нячутна, што дзень,
Хварбы наукола паклала панурыя,
Сонцо хавае за чорную цень.
Збожжо пажатае з нівау пазвожано,—
Голыя гоні самотна ляжаць,
Небо даждліваю хмарай абложано,
Траукай ні грае сваей сенажаць.
Кветкі ні сьвецяць галоукамі яснымі;
Кусьцце без лісту, без красак стаяць;
З гэтымі восяні днямі безкраснымі
Цяжкія думкі у сэрцо ляцяць.
Вольхі, рабіны, асіны з бярозамі,
Лістам пажоуклым тужліва шумяць:
„Хутка надыйдуць завеі з марозамі,
Ветры с сьнегамі ізноу наляцаць."
Толькі высокія хвоі іглістыя
Вечна зялены свой кажуць убор.
Днямі зімовымі, цемна-імглістыя,
Будуць чарнець навакол, наузгор.
Зіму пачуушы мядзьведзь ніспакоіцца,
Ходзіць па лесі, шукае бярлог.
Хмурны і злосны, пакуль супакоіцца,
Горш на скацінку, на людзі налег.
Гусі і качкі гуртамі зьбіраюцца;
Хутка на поудзень саусім паляцяць.
Хэура за хэурай на рэчцы зьменяецца;
У ранку крычаць на вадзе, лапацяць
Так ніпрыкметна часамі, дзянечкамі
Восень зьменяе аблічо зямлі..
З гэтымі днямі васеннімі, ночкамі,
Думкі мне у сэрцо жудосны прыйшлі.

Старое нешта усе спамінаецца.
Толькі ніясна, мауляу, праз туман.
Нейкі ніведамы жаль уздыймаецца,
Вабіць і цягне успамінак-дурман

Сэрцо баліць пад жаданняу прымусамі,
Што за жаданні—ніяк ні пазнаць;
Можа ляцеці адгэтуль за гусямі...
Можа заснуць, каб нічога ні знаць?...

# Мае думкі.

Па на горах сьнягі палеглі
І даліны убраліся у белі.
Мае ж думкі як толькі маглі,
Хутка з ветрам у даль паляцелі
Паляцелі у даль, дзе німа
Гэтых гор—вартаунічых няволі,
Дзе ні гэтак сурова зіма
Дзе прыняу я і жыцце і долю
Паляцелі сцытаць, паглядзець —
Як жывецца на роднай старонцэ?
Як той брат—беларус мой жывець?
Ці высока узнялося сонцо?
Там жа усе, як раней, як было:
Беднасьць, ціша кругом і цямнота.
Дзе там шчасьце!—Жыцце зацьвіло.
Як на версі якое балото
Сонцо нізка—ні грэе саусім
І саусім-жа ні сьвеце без мала;
Раз блісьне дзе-ні-дзе - і паусім
І зноу сваю твар захавало.
Колькі ж будзеш ты спаць? Ні пара
Табе часам, мой браце, праспацца,
Каля бацькаускіх ніу і двара
Працаваці зноу шчыра узяцца?
І усе, што утраціу сплючы,
Пазьбіраці да роднае хаты?
Годзі спаць! і ні будзе начы,
Будзеш вольны, разумны, багаты!
І высокае слонцо тагды
Будзе працу тваю аглядаці,
І пазбудзешся крыуд і нуды,—
Будуць людзі цябе шанаваці.

# Навакол...

Сьнягі, ляды,
абрус жуды,
на заусягды,
на вечны час,
        ляглі.
Гара, скала,
наукол лягла
і узрасла
паускрайны пас
        зямлі
Узрос на ей
вялізау-хвой,
туману з мглой
прытулак, лес
        стары.
Прадзіуны мур
нярушных хмур,
як той каптур,
на бор узлез
        з гары.
І сонца сьвет,
здалека, з гэт!...
нябес прывет
ні здужыць к нам
        дайсьці.
Адны вятры
праз хмар муры
лятуць з гары,
праз лес той сам,
        гусьці.

І разам з ім
на жах благім
і добрым, усім,
тужлівы сьпеу
        вядуць:
«Засьні, засьні,
«у ноч усе дні
«перамяні
«і нас ні гнеу,
        «ні гудзь.
«Скалей, як лед,
«На сотні год
«і сэрца лет
«спыні. Вярні
        «да сну. .
«А сонца сьвет,
«здалека, з гэт...
«З нябес прывет,
«мана Гані
        «ману.
«Гані. Раі
«тых дум спыні
«і жаль стаі,
«і кінь с пяшчот
        «у цьмы.
«На сьвет адны
«твае паны
«і вартауны
«табе пачот,
        «- - -то-ж мы»

# Ветру.

Ветрэ, ветрэ вольны,
Стой, зрабі паслугу!
Буду спосаб меці,
Аддзякую другу.
Зьлетай, легкі, борзда
У край, адкуль я родам, —
Бацьку, матку убачыш,
Мілую заходам;
Убачыш гэнам, ворле,
У краю тым—старонцэ:
Брат мой беларусін
Гібее без слонца.
Ім усім паклонам
Нізкім ты скланіся,
Хай жывуць, красуюць..
А потым вярніся.
Гэтта скажаш, браце,
Мне, што там убачыу
Буду спосаб меці,
Паглядзіш, аддзячу!

# Завіруха.

Завіруха скачэ ноччу
Патарочай, плачэ, вые;
Пухавыя сыпе у вочы
Сьнегавінкі мне; рагочэ.
Йду на вобмацк; ледзь жывы я,
Ніжывыя суну ногі
Без дарогі. Цело ные.
Калянее; верставы я
Прамінаю слуп убогі,
Троярогі крыж збутвелы,
Пасівелы, цемны, строгі.
Ні чакаю дапамогі...
Прыступае нехта белы.
Асьмялелы. Вот усьцігае,
Акаляе, скамянелы,
Пасінелы, — абнімае.
Завіруха —
Рагатуха сыпе сьнегу
І у прабегу шэпчэ у вухо:
„Заначуеш — ні пачуеш:
„Я завею, я угрэю,
„Зараз ляжаш, дзякуй скажаш,
„Мне ты скажаш“. Завіруха —
Рагатуха шэпчэ у вухо.

Ажно чую: раптам злая
Улягае, уціхае
Завіруха. Замірае.
Праясьняе у полі. Нікне.
А нізыкне вецяр-сваткя.
Бачу — хатка.

Як тры зоркі, тры ваконцы
Пры гасьцінцу. Верацёнцы
Дыму у небо уюцца, пнуцца.
Хатка, вокны, дым, сьмяюцца,
Клічуць, вабяць, сустрэчаюць,
Прывечаюць, запрашаюць.
Голас чую родных, мілых.
Узмацаваушыся на сілах,
Крыкнуць рады: „згінь ты, горо!“
А яно у атказ гаворэ:
—„Над табою
Сьнег гурбою.“

# Думы у чужыне.

Горо мне цяжкае, горо безшчаснаму!
Сэрцо усе жаліцца, плачэ, баліць.
Хочацца к сонейку цепламу, яснаму:
Хоць бы убачыць! Усю цяжасьць зваліць!
Доля мая, што мяне узбагаціла.
Думак, жаданняу і сэрцо дала,
Недзе гаман з маім шчасьцем утраціла.—
З горам падняла і мне падала

Што там на перадзі, што там нізнанае,
Што там са зьдзекам мяне сьцеражэ?
Скрытна-варожжае, с страхам чаканае.
Можа і блізка на нейкай мяжэ.
Толькі ні сьмерць,—ні аб ей ніспакоюся
Сьмерць гэта што! Гэта дар для усіх:
Прыйдзе той час і я з ей заспакоюся.
Збыушыся болеу і думак сваіх.
Іншае горо душу абціжарыло,—
Камень цяжэйшы на сэрцы ляжыць:
Дні майго росквіту мглою абдарыло,
У жыцці штодзенна за мною бяжыць
Доля мая,—гэта доля гаротная,
Сэрцо дала мне, научыла любіць,
Дый прысудзіла яна-ж, адваротная,
Век у сіроцтве, у выгнанню пражыць.
Што мне жыцце, хоць-бы самае краснае?
—Волі ні маю! У няволі жыву.
Гэтае нуднае быцце уласнае
Сьмерцю страшэннаю з болям заву.

Сокалам вольным і с пташшай гуллівасьцю
Як бы. здаецца. адсюль паляцеу...
Нельга і думаці,—доля без міласьці
Варту паставіла Ворат абсеу.

---

Беднасьць ні горо саусім мне безскарбнаму,—
Я багацей, замажней за другіх,
І ні зайздрошчу багацтвау тых марнаму,
Досыць з мяне бедных злыдняу маіх.
Покі варушацца рукі скарэлыя,
Праца мне будзе на радасьць, на сьмех.
Злотам багатыя, сэрцам знішчэлыя,
Трутні ні мецімуць гэткіх уцех.
Што мне багацтво? Без грошы, без золата,
Быу бы магнат я, кароль, багатыр,
Там, дзе пад націскам роднаго молата
Жыцце куецца у глыб і у шыр.
Жыцце куецца і сонцо уздымаецца,
Сьвету праменні льецъ з гарыні,
З доугаго сну дзе народ прачыхаецца,
Побыту шчаснаго сьвецяць агні.
Там, дзе цяпер яшчэ сілы нячыстыя
Жыцце карожаць, па свойму вядуць,
Дзе устрапянулісь дубы густалістыя
І на курганах німоучна гудуць,—
Можа і я с сваей слабаю сілаю
Там працаваці-бы. крышку памог;
З гэтаю працаю шчыраю, мілаю,
Сьмерці спаткау-бы спакойна парог.
Можа... А можа ні убачыці гэтаго?
Можа суджона тут век мне пражыць?
Дні адзіноты, сіроцтва безсьветнаго
Грудай каменняу у душы валачыць.

---

Страшна мне гэта. і усе ж ні ядынае
Так навалілось, гняце у глыбіне, —

Горшая мука утрапляець, што сынам я
Быць перастану сваей старане.
Памяць ні доугая, любасьць ні вечная;
Страсьць, безлюднасьць—іх трудна нясьці;
Мо, пажагнаушыся с старым, на вечнае
С шляху зьвярну, па другім каб ісьці.
Страшна мне нават аб гэтым і згадываць
Страшна і думаць, і я ні хачу
Толькі-ж надзеі ні маю чым зрадаваць,
Сэрцо і сьлезы ссушыць у ваччу.
Вось у чым горо бадзязе безшчаснаму,
Вось чаму сэрцо мае так баліць,
Вось чаму хочацца к сонейку яснаму—
Хоць-бы убачыць, тым цягасьць зваліць!...

---

Цяжка мне, праудa. Ці-ж трэба мне жаліцца?
Цяжка-ж другім—іх мільены усіх,—
Жыцце іх рушыцца, бьецца і валіцца.
Гінуць надзеі і думкі у іх.
Многа на сьвеці усякаго творыцца!
Многа хто вершау аб гэтым злажыу.
Часам паслухаеш, хто разгаворыцца,
Бог яго ведае, як ешчэ жыу?!
Біуся з ніпраудай з бядой і гаротаю,
Сэрцо у попел нішчадна спаліу,
Сілы усе страціу у бойцэ с цямнотаю,
Кроу, ні рахуючы, кроу сваю ліу!
Што-ж тады плакаці мне, маладзейшаму?
Я-ж ні прайшоушы пуціну сваю:
Сэрцо асталося. Не, весялейшаму
Трэба мне быць, а я плачу—пяю.

# С песьняу няволі.

*Я. Л—ку*

Прауду мусім ведаць, браце:
Покуль мы ні у роднай хаце.
Ні на ніві покуль роднай,—
Нашай думачцы ніводнай
Век ні спраудзіцца, ні збыцца,—
Мусім у цеснай клетцы біцца
Нашых думак і жаданняу
І няволі налягання у.

У гароце, у няволі.
Без пасьпеху, а паволі
Нешта розум у нас вымае,
Смокчэ душу —выпівае,
І за шыю душыць больна.
Што часамі мімавольна
З болю гэтаго заплачыш,
Што аж слонейка ні бачыш!

Мусім ведаць, што мялеем,
Што паволі усё малеем,
Ні жывем, але канаем,—
Зранку долы вымераем,
І надзею што-дзень губім,
Хоць яе, як жыцце, любім.

Нашы брацця—там, на волі,
Палеглі моу-ся на полі,
Чыстым полі ваявецкім,
Велькім колам маладзецкім,
С пасячонымі плячыма,
З выпаленымі вачыма.

---

Мы зьявілісь з яснай казкі,
Братняй міласьці і ласкі,

С краю-Далі, краю-Сьвета,
Дзе цяплюхна, вечне лето, —
А нас кінулі у пушчы,
Ды у холад, ды й у гушчы,
Дзе брат з братам вечне бьюцца.
Спруцянелі, а дзяруцца,
Мы хацелі даць ім сьвету.
Зруйнаваці пушчу гэту.
Даць ім міласьці прагненне.
Дзен шчасьлівых даці менне...
Мы ішлі вялікім валам,
Войскам буйным а зухвалым,
Ды ні стало нашай мочы:
Сьвет слабейшы быу ад ночы...

---

Што-ж? Ніхай! Ніхай так будзе,
Мусіць гэтак доля судзе.
Цяжка, страшна жыці, прауда,
Дык цярпеці-ж нам ні науда.
Так на моры—акіяне
Часам хваля перастане...
Можа-ж прыйдзе навальніца, —
Толькі-б ветрыку з'явіцца!
Будзем у небо цікавацца,
Будзем зорак прыгледацца:
Без пакоры у пакоры
Перабудзем свае горо.
Мо і нам аднекуль з неба
Скажуць: „Чуйце, устаньце, трэба!"
У узмацняць. Парвуцца путы,
Будзе вольны, хто закуты
Ні адны, а з грамадою.
Разам з людзьмі, чарадою
Пойдзем поплеч зноу у далі,
Скуль прышлі і скуль паустали.

А калі-ж ні хопіць сілы
Устаць на гэты вокліч мілы,—
Сэрцо хоць мацней забьецца,
Твар пахмуры усьміхнецца..
    Можа ж быць раней загінем,
    Дык усе-ж мы сьлед пакінем,
    Бо, браток, хоць промень сьвету
    Прынясьлі мы у пушчу гэту!

*Вечнай памяці Т. Г. Шэучэнко.*

За тысячу верст ад радзімаго краю,
У стэпу, пустэчы безлюднай,
Сумуець казак па загубленым раю,
Па маці-Украіне цуднай
Німа яму волі, пад вартаю пільнай
Начуе і днюе і ходзіць,
Ні воднай ні мае людзіны прыхільнай.
Самотна дзянечкі праводзіць.
А думка, як віхар, імчыцца, нясецца
Ад берагу мора Аралу
На родну старонку, дзе вораг сьмяецца
І усіх абдзірае памалу.
У душы яго ласка, каханне малююць
Пакутніцы вобраз без сказы.
Ах, мучаць Украйну, рабуюць, ганьбуюць!..
Імчацца, нясуцца абразы:

„Вее вецяр, сонцо грэе *)
На сьцяпу шырокім,
Што відаць здалек, чарнее,
Дзе курган высокі?
Сьляпы гэнам на бандуры
Перабэньдзя грае
Аб казацтве, аб гэтманстве,
Сам сабе сьпявае:
—„Ой лунала наша слава,
„Аж у звоны білі!
„Меч гэтманскі і булава
„К каралям хадзілі.
„Мелі славу, мелі долю,
„А цяпер прапало;
„Мелі шчасьце, мелі волю,
„А цяпер ністало;

*) Узлюбены абраз Т. Г.

„Стогнуць, плачуць стэп і людзі
„Пад чужой рукою,
„Вораг цемны уссеу на грудзі,
„Ні даець спакою.
„Дзе Багдане, слауны Хмелю,
„Дзе ты? Адгукніся!
„За народ наш, за Украіну,
„Браце, заступіся“.
Слонцо грэе, вецяр вее.
Па стэпу разносіць
Тыя словы залатыя,—
Да касцоу даносіць.
Учулі людзі прауды слово,
Засьпевалі ціха,
Аб тым зьдзеку паняверцэ,
Панаванню ліха.
Пан акоман—бочка піва,—
Цівуны у злосьці:
„Нуж-ма, хлопцы, жыва, жыва!
Бо зьдзяром да косьці!“
Сорам, сорам! . Люд пакорны
Галавой схіліуся..
Пане, пане.—гадзе чорны,
Каб ты с сьвету збыуся!...

Адна за аднэю праносяцца зьявы,
Мігцяцца безупынна абразы,
Нявольнічы побыт і сьлезы крывавы
І зьдзек глузавання, уразы. . .
Туды, да нішчасных у думцы сягае
Песьняр гэніяльны прыгону,
І Богу на небі любіць прысягае
Народ свой,—любіці да скону.

* * *

Эх, сягоння, у гэту ночку
Я уцяку адгэтуль проч!
Шэрым воукам па лясочку —
Хай дагоніць, хто ахвоч!
 Хай тагды, сярод дарогі
 Станець хто – ні будзе рад:
 Чорны вуж абкруціць ногі.
 Буду вужам, буду гад!
Хай тагды, шукаюць у лесе
Цемных, вузкіх, воучых троп!
Як арол у паднябессе
Я узлячу над земскі строп.
 У небі роуным, чыстым шляхам
 Яснай зоркай палячу,
 І скачуся напад дахам
 Роднай вескі і ускрычу:
—Гэй, хто есьць тут! Люд галодны,
Люд пакутны! Да мяне!
Станьма, брацця, у шых паходны—
Наша горо праміне.
 Досыць нам з нядолі віці
 Ценкі жыцця свайго пас,
 Слухай, люд: прынес я віці,
 Хто за мною, брацця?—Час!
Устануць, рушаць: ,,Проч з дарогі!
„Хто нам хочэ заступіць?
„Мы пайшлі, мы, люд убогі,
„Усе узяць, ці усе згубіць"...
 Думкі, думкі звадыяшкі,
 Ах, ні мучайце мяне!
 Вам усе гульні, а мне цяжка,
 Мне няволя ні міне...

# На сьмерць.

Памер ты, татачка, успакоіуся на векі!
На вочы сумныя насунуліся векі.
Прыціснула іх сьмерць мацней за чужанца.
І вот, айца
Ні стало, родны мой. ад сьмерці тваяе.

О, сьмерць без літасьці. ратунак ты і кара!
На што ж яму, як тая чорна хмара,
Заслонай вечнаю ты стала прад вачмі?
Скажы, сьлязьмі
На што пасквапілась радзіны ты мае?

Ах, родны, блізкі мой! Гаротны і бездольны,
Жыцце свае, той шлях ніудатны і нявольны,
Ты з боллю цяжкаю у сэрцы перабыу
І свой згубіу
Апошні стон, адзін, у чужжстве, у цішы.

Безшчасны тата мой! Усім адна дарога...
І торгання разлукі ні так катуюць строга,
Як тое, любы мой, што у ноч, у апошню ноч,
У цябе із воч
Сьляза скацілася аб скрыуджанай душэ.

Дратуе сэрцо мне, цьвікі у мазгі убівае
З грудзей і боль. і стоны здабывае
Здагадка страшная: у гадзіну усіх гадзін
Ты там адзін,
Мауляу безплеменнік усім чужы, сканау...

Адно бліжэйшае, адно-б хаця стварэнне,
Хаця-б ні роднае, хаця-бы на здарэнне,
Прасіу Вялікаго к табе хутчэй паслаць,
Каб з ім аддаць
Сваім апошні свой, гарачы свой прывет.

Ні меу Ен літасьці, ні дау табе спакою,
У самоце, у больніцы, жалезнаю рукою,
Ен сэрца кволаго спыніу нітрвалы рух
І бедны дух
Прымусіу твой пакінуць гэты сьвет.

Казау: «маліся» ты. За што-ж, каму маліцца?
Ці-ж можна прауду нам знайсьці, калі маніцца,
У небо чорнае уляпіушыся вачмі?
З журбой, с слязьмі
Нясьці туды сваю найбольшую з надзей?

Пабач, гаротны мой: ці-ж ты ні моцна верыу?
Сьвятою праудаю ці-ж кожан шаг ні мерыу?
Сьлязьмі крывавымі ні плакау? ні прасіу?
Ні усе знасіу,
Запомнены праз небо, нізнаны праз людзей?

Ці-ж меу ты, родны мой, хоць дзень на
адпачынак?
З гароты, з беднасьці ці знау перапачынак
За веру гэтую? Ці-ж ні балеу ты заусягды,
Ні сох з бяды
З душою прэснаю, адкрытаю да усіх?

Салодкіх мала хвіль, а горкіх натт багата
Памеу за жыцце ты, мой родны, бедны тата,
А можа горкую табе і я хвілінку дау,
Ні спагадау
Табе калі... Цяпер за гэта выбачай.

Ніхай пуховаю табе зямелька будзе,
Ніхай спакой табе твой Пан прысудзе.
Я некалі прыйду пад той убой крыж,
Дзе ты ляжыш,
І там наплачуся. А пакуль што—пращчай!

* * *

Думкі — дыямэнты, краскі жыцця
Песьні — вас гэтак люблю,
З вамі салодкіх гадзін забыцця
Часам і я пазнаю.
Жыцце-няволя у чужой старане,
Працы надмернай яром
Зараз зьнікаюць, бы у госьці ка мне
Вы паказаліся у дом.
Слухайце-ж, думкі: як прыйдзе мой скон,
У хатку зьляціце ка мне
Хай перадсьмертны уцішыцца стон,
Сэрцо на момант спачне.
Хай засьпеваю, як лебядзь, калі
Прыйдзе гадзіна яму,
Узьнесшыся у небо ад маці-зямлі,
Рыне у адвечную цьму;
Хай засьпеваю аб сьне залатым
Веку людзкога радства.
Роунасьці, вольнасьці, брацтва,—аб тым
Веку красы хараства.
Можа, пачуушы прэдзгонны мой сьпеу,
Сьціхла-б на сьвеці вайна....
З радасным духам-бы я паляцеу
У царство кахання, відна.

# Вясна.

Эх, вясна, вясна!..
Як прыйшла яна,
Прынясла сьвятла,
Прынясла цяпла.
Наліла у лагох
Сьнегавой вады,
Расьцвіла у лугох,
Расплела сады,
Прабудзіуся лес
На вясенні шум,
А глыбокі сум
Мне у душу улез.....
Першыя гусі ужо праляцелі,
Палі на рэчцэ, узгорак абселі,
Гвагалі доуга, нараду сабраушы,
Потым згадзіліся, дось пакрычаушы,
Узляцелі высока над сосны, над елі
І недзе прапалі у нябескім касьцелі ...
Ах, каб крылля, крылля мне
І той лет гусачы,
Я прапау бы у гарыне
Хто-б мяне і бачау!
Раз-у-пораз, раз-у-раз,
У небо-б біу крыламі....
Гусі, гусі, я да вас,
Я лячу за вамі!
Дзе былі вы? Што было там?
Дзе жылі вы? Над балотам?
Мо ля рэчкі? Мо ля хаткі?
Ля сялібы маго таткі?

Мае маткі, майго браткі,
Вы ні бачылі часамі?
А сястрыцы? А дзявіцы,
Маей любы,
Вы ні бачылі часамі?
А у шлюбы
Ні зьбіраецца сястрыца?
Не? А люба, чарауніца?..
Ці там ймгліста,
Ці там ясна?
Красна? Міла?
Гусі! Шчасна?..

# Nokturno.

Спаткау сягоння я сваю Нядолю,
Знайшоу яе у сінінькім ляску
Брадзіу без мэты я. душа гарэла з болю,
І думау: будзе мне лягчэй у халадку.
Спаткау, пазнау яе і. вось, пытаю:
—Скажы ты мне, Нядоленька мая:
Багата жыцця кніг яшчэ перачытаю?
Калі і на якой чытанне скончу я?
Скажы ні крыйся мне, мая камратка,
Дзянькі мае моркотныя чаму?
Адзін у адзін ідуць, ва усіх адна апратка.
Як думы грэшныя, ці вінныя каму.
Чаму, яшчэ скажы, мая ядына,
Люблю зямлю, вялікі жыцця ток,
Як небо зорачкі, каханнем моцным сына
А сам—адлучаны ад дзерауца лісток?
Яна у вочы люба мне зірнула,
Узлажыла белы ручанькі на мне,
Мауляу сястра мая, да сэрца прыгарнула,
Часамі так цябе каханка прыгарне.
—Чакай, харошы мой, пакінь задумы!
Душу сваю пытаннямі ні муч.
Зірні на гэты лес, прыслухайся у шумы,
А можа знойдзеш ты жыццевы вечны
ключ!
Стаіць магутны лес, ізноу убраны
У зялены ліст дагледлівай рукой,
І пьець спажыуны клек, старыя гоіць раны.
Зірні: якая моц! Зірні, які спакой!
Што год уміраець ен парой асенняй,
Каб зноу аджыць, убачыушы вясну.

І гэтак усе ідзець чаргою пераменнай:
То скіне сон з вачэй, то зноу ідзець да сну.
Расьцець дубочак тут,—які зялены!
Другі, стары, калодаю палег;
І сын ідзець у гару, як бацька у час мінены,
Што дау жыцце яму, а сам зваліуся у мох.
Цячэць ручайка вось і ту ж ні стала!
Німа яго, схавауся у зямлі,
А недзе—тамака рака зямлю прарвала
І воды тэй ракі па лузе пацяклі.
І ты, о, любы мой! Як лес зімовы
Заснуу, ляжыш, ні можучы устаць.
Але наступіць дзень вяселы, пекны, новы,
І радасьць вольнасьці павінна завітаць.
Дзянькоу маркотнасьць ты сваіх у распачы
І тэй сваей адлюднасьці ні гудзь:
Пакуту Рок табе, шчасьліваму, прызначыу,
І удзячным за яе Вялікаму ты будзь
Німа пакуты, дзе німа пазнання,
Душа тагды лагчынамі паузець,
А што гарчэй, скажы цяжэй перапаузання?
А што страшней яшчэ, як вочмі ні глядзець.
Аб сьмерць пытаеш ты? Калі сканчыцца
Жыцце твае,—міленькі, ні пытай!
Спрабуй ад думак тых, ад хворых, палячыцца,
Прыходзь у гэты лес—паветро тут глытай.
Жыві, каб жыцце даць другім, малодшым,
Як дуб стары, што узгадавау дубка.
А там... ручайка знік! І мы пуцем каротшым
Пайдзем у зямлю за ім, каб выплысьць, як рака.

* * *

Дзяучыначка-сэрцо, сябе ні трывож,
Ні песьці надзеі і жалю ні множ.
С табою пабраща мне волі німа, —
Дауно заручыуся я ужо са трыма:
    Айчызна,—я ей у няволі жыву,
    Што ноч яе бачу, мауляу на яву,
    За ею сумую, журуся адно,
    Бо шчырым каханнем зьвязауся дауно.
Другая: матуля. Радзіуся калі
І голас мой першы падау на зямлі,
Замучэны твар усьміхнууся яе:
«Сыночак мой любы»—вітала мяне.
    Аб трэццяй, дзяучынка, скажу, што яна,
    Другоі ні знойдзеш—на сьвеці адна:
    За краты няволі паслала „люблю“,
    Дык хіба-ж с табою яе падзялю?
Пакінь жа, галубка, с каханнем сваім!
Шукай сабе шчасьця за кім за другім;
Пяшчоты, залеты ні траць з-за дарма,
Дауно заручыуся я ужо са трыма.

# Мая люба.

У любы маеі дый косы ільняныя й вочкі нябескія,
Губкі вішневыя;
І шчочкі ружовыя, шыйка і ручкі, як бель лебядзіная, —
Грудкі пуховыя;
І голас у любай, як у лесі зьвінючай, бліскучай крынічанькі
Сьпевы адвечныя;
А усьмешка каханай—у зяленым аксаміце луга мурожнага
Пэрлы сланэчныя;
Ідзець каралеунаю, добрай, ласкаваю, роунай паходкаю,
Ціха ступаючы,
Зауседы усьміхаецца думцэ захованай, у сэрцы мілосную
Песьню сьпеваючы;
Вяночкі, што вечара, у рэчку спушчаючы кажэ: „Плывіце вы
Разам з вадзіцаю!
Скажэце каханаму станем прад Богам мы параю шлюбнаю,
Хоцьбы з грамніцамі.“

А гэтак далекая! Так яно, зорачка захаду ранняя,
Будзе і станецца.
Над нашым каханняйкам людзі ні сільныя, леты ні уластныя—
Хай-жа мінаюцца.

* * *

Хто сказау: „і я з народам“,
Хто з ім поплеч стау, як з братам,
Хто пайшоу з ім роуным ходам,
К роуным зыскам, к роуным стратам,—
С тым і я. Ніхай-жа лічэ,
Будзе трэба—хай паклічэ.
 Хто ж сказау, а потым здрадзіу,
 Хто пайшоу, а потым кінуу,
 Хто у душы сумленне згладзіу,
 У кім апошні сорам згінуу,—
 Хай дрыжыць. У дзень прысуду,
 У страшны дзень, я сьведчыць буду!

# Ідуць гады.

Ідуць сабе гады, ідуць,
Бы карагод без конца,
Што у нябі зорачкі вядуць
Ля месяцу, ля сонца.
Ідуць сабе гады, ідуць—
І чалавек за імі.
Куды цябе яны вядуць,
І сьцежкамі якімі?
—«Ніведама мне скуль усе і што я;
Ніведама мне сама сьцежка мая,
Ніведама мне і куды я іду.
Пытання ні маю, ці што там знайду,
Ніведаю жыцце, ці шчасьце, ці не,—
Пачалося гэта, браток, ні на мне».
Ідуць гады, ідуць гады
І з імі усе на сьвеці.
Сягоння ты, а йшлі дзяды,
А заутра пойдуць дзеці.
Ідуць гады і ты ідзеш
У здагонь за імі, з імі.
На што, скажы мне, ты жывеш
І з думкамі якімі?
—„З аднэю я думкай у сьвеці жыву,
Настаунікам узяушы і лес і траву,
Крыніцы і кветкі, і цемру, і сьвет,
І месяц, і зоры, і сонца прывет.
Прысуджаны шлях свой рабі дарагім,
Красуйся на радасьць сабе і другім.“

# Навука.

Казау настаунік мне (ен блізкі быу Прароку,
Які жывым узьняуся у выш, у блакіт нябескіх
сфэр):
«Мой сын, с пачатку мы пад'уладны пану-Року—
У гэта вер.
«Які-бы крыж табе ні выпау у жыцці гэтым:
«Галеці век, чы быць царом і царскі мець пасад,
«У балоце бросьнеці, чы йсьці к нізнаным мэтам,—
«Яго загад.
«І вось, калі табе трываць ні хопіць змогі,
«І цяжкім здасца крыж табе, і доля вельмі злой,
«Ні трэба, сын, шукаць лягчэйшае дарогі,—
«Ідзі старой.
«І мусіць час настаць: убачыш сьвет праменны,—
«Ідзець уладар адвечны твой, яго спаткай здалек,
«Узьдзеушы бітвы меч на свой паяс раменны.
«І скажэ Рок:
«Ідзі хутчэй, слуга! Спавіты сьвет маркотай,
«У ім крыуды легіон забрау зямлі апошню чвэрць
«Нясі ж свой праудзе меч. — Мой сын! ідзі з
ахвотай
„На чэсьць і сьмерць."

# Адбітак.

Дзіулюся я на зьянне ясных зорау,—
І сумна-сумна так, што я ні разам з імі.
Што жыць ні льос мне у вышыне нагорнай
І сьцежкамі хадзіць па небі залатымі.

Сярод нізнаных мне, ні бачаных прасторау,
Раунінай той, што звецца Безканечнасьць,
Я летау думкаю-б і воляй ніпакорнай
І можа-б там пазнау цябе, Адвечнасьць.

Дзіулюся я на зорау ясных зьянне,
На сьцежкі іх, усе тыя-ж, як прад векам,
І сумна гэтак мне, і родзіць сум пытанне:
На што пачауся я ад Бога—чалавекам?

* * *

Як ліст вярбінкі маладой,
Што вецяр злосны адарвау
І кінуу у рэчку і з вадой
У даль ніведаму пагнау,—
Плыву сабе. Рака мая—жыцце,
Па ей плывуць і кветкі і сьмяцце.

Я раз спытауся у вады:
—Скажы, аткуль ты прыцякла?
Яна сказала:—С пад грады
Каменных горау уцякла.
Куды-ж бяжыш?—Цяпер бягу над спад
У моро сіняе.—А вернешся назад?

—Над мной закон—колазварот.
Плыву я з мора у акіян
І стуль зьбіраюсь у паварот,
Калі узьнімецца туман
І узляжэ ноч. Лячу хутчэй тагды.
Цячы ракой з-над горнае грады.

Як ліст вярбінкі маладой,
Што вецяр злосны адарвау,
І я плыву сваей ракой,
Жыццем якую хтосьць назвау.
Нясець яна і кветкі і сьмяцце...
А ты-ж скажы, ці вернешся, жыцце?

# Нізнаны госьць.

Дзіцятко малое у жыцце прыйшло.
Спытауся яго я:—А дзе-ж ты было?
Скажы мне, піскляткo, у якіх гарадох?
Скажы мне, дзіцятко, у далекіх краех?
Скажы, анелятко, ці доуга блукау?
Скажы мне, ягнятко, каго ты спаткау?
Скажы мне, малое, ці быу ты у раю?
Скажы, залатое, ці долю сваю
У Эдэмі убачыу, спаткау, палюбіу,
Ці што, ніабачны, благога зрабіу?
Напрыкрыуся у небі? Ці сум сустрэчау
Па іншаму жыцці, што гэтта пачау?
Скажы мне, малое! Хачу я пазнаць.
А дай, залатое, цікавасьць спагнаць.

І ціхай задумы заслона зыйшла
С спакойнага твару, і хмарка найшла,
З блакітніенькіх вочак, што з неба прынес,
Скаціліся сьлезкі,—дзьве пэрлінкі сьлез.
Аб чым яно плачэ? аб райскіх садох?
Аб кветках праменных? анельскіх сьпявох?
Аб чыстасьці, яснасьці, сьвятасьці душ?
Тварца маестатнасьці? Дзеткі, чаму ж?
Аб чым ты заплакало?—Мне у адказ
Скаціліся новых дзьве пэрлінкі ураз.

# Матчын дар.

Як радзіла маці мяне у цемну ночку,
Дык дала скрыпіцу — «На, іграй сыночку!
Грай сабе на шчасьце, грай на добру долю,
Грай на век даугуткі, грай на вольну волю.»
Помню. дзіцянеткам, с тугой я ні знауся,
Жыу. як тая птушка, грау і забауляуся;
Дзень мне быу спакойны, у ночы сон без-
грэшны,
А цяпер застауся я на век ніуцешны.
Ой, чаму-ж. матуля, жыцце—скрыпку дала,
Як іх шанаваці. дый ні навучала?
Гэта-ж падзівіся—-я адкрыцца мушу,
Што сапсуу скрыпіцу, што згубіу я душу.
Здауна, сівакрыла, шчасьця я ні маю,
Долі я ні бачу, радасьці ні знаю.
Граю, прауда! граю... А на сэрцы важка,
А у сэрцы больна, аж трываці цяжка.
Тыя ні прыйходзяць песьні-весялушкі,
Як пяе зямліца. як шчабечуць птушкі.
Жаль з нудой заплачуць, глуха як зайграю...
Маю я скрыпіцу, а душы—ні маю!

# Змора.

*М. В.*

Сэрцо, спаць хачу я, спаць!
Заутра рано устаць мне, устаць.
Вочы сьлепіць сон мне сон
У вухо шэпчэ ен мне, ен:
—Ні журыся, палажыся, адпачні.
Мардаванне, сумаванне адгані.

— Заутра зрана, сьвет-ні-сьвет,
Выйдзеш с хаты з гэтай, з гэтт.
Стаць на працу мусіш, стаць.
Здаць прыгоны мусіш, здаць.
Ні мардуйся, ні крапуйся. адпачні,
Думаванне, сумаванне адгані!

Рыбка, спаць хачу я. спаць!

# Літанне Адзіноце.

Зноу я прыходжу у часе зьмеркання.
Складаю Літанне, нясу Табе данне
Ад сэрца свайго, Адзінота;
Можа раней, як яшчэ ні радзіуся,
Табе быу адданы, Табе прысудзіуся.
Крулева мая Адзінота;
Можа быць маці, калі спавівала
І ночы ні спала, над люлькай сьпевала,
Аддала Табе, Адзінота;
Меу я ад родных пяшчоты—упады,
Мне мамка—галубка і усе былі рады.
А Ты—над усіх, Адзінота;
Ты надавала мне брэдняу у садочку
Ля хаткі радзімай, у вішневым куточку.
Дзіцяці яшчэ, Адзінота;
Ласка Твая, што усяго навучыуся,
У жыцце і у людзей і у Цябе улюбіуся,
І воля Твая, Адзінота;
Сьмерцю сваею—ці наглаю згіну
Ніколі Цябе я ужо ні пакіну,—
Ні здолеці мне, Адзінота.
Часам Табе пасылаю праклены,
Зубоу скрыгітанне, уразау мільены
Уладанню Твайму, Адзінота;
І дух ніпакоры, руіны, паустання
Над усе пераможны, кідае у разстанне,
Абы ад Цябе, Адзінота;
Потым прыходжу пануры, пахілы.
Хачу падзівіцца на вобраз Твой мілы,
Пякнейшы за усе, Адзінота!
Ты-ж, як матуля, прытуліш і прымеш,
Ашушкаеш ласкай і тугу сунімеш.
І зноу я с Табой, Адзінота!
Гэтак, нявольны ніколі сабою,
Прыходжу сягоння па спрэчцэ с Табою
У пакоры. Прыймі, Адзінота!

# Начлег.

Сьпіць душа і розум сьпіць
Смачна, без трывогі,
Піць і есьці, есьць і піць—
Клопат увесь німногі.

Легка так. Ні маеш дум...
У прочках гдзе-сь маркота...
Боль прайшоу, уняуся сум,
—Спаць адно ахвота.

Сьпіць душа... і розум сьпіць!
Часам нехта узбудзіць.
Нібы устыдзіць, нібы кпіць,
Нібы крышку судзіць:

«Сорам, брат»... А далей слоу
Я праз сон ні ную.
Зьнікне голас, ціха зноу...
У ясны дзень—начую.

* * *

Скажы, братухна. калі паранне?
Калі сьвітаці пачнець у нас?
Праймчыцца ночка і сонцо устане.
І дасьць вяселле і дасьць пакрас?

Скажы. братухна, калі прачнуся
Ад тэй навалы, ад тэй жуды,
І з ветрам буйным гуляць пушчуся,
На сьвет, на людзі ці хоць куды?

А можа, браце, і сонцо устало?
І льець праменні на лес, стэпы?
Ды так глыбока душа запала,
Што я нівістны. што я сьляпы?

# Ноч.

У гэту ноч мне ні у моч—
Німа сілы чакаць і маліцца...
Каб я умеу, каб я сьмеу
Узляцець паляцець, ці разбіцца!
Як сакол, як арол,
Я падняуся б высока страшэнне,
Я-б узяу, я-б украу
І сабе і усім адпушчэнне.
Калі ж не, калі-б мне
Адпушчэння на небі ні далі,
Я-б маліу, я-б прасіу,
Каб і крылля мае паламалі.
І тады, наусягды
Папрашчаушыся-б з небам, з зямлею,
З гарыні, з вышыні
Паляцеу бы за сьмерццю сваею.
Але-ж не, то ні мне
От такая вялікая доля:
Узляцець—паляцець,
Ці упасьці разбітым на поле.
Ні пры нас сьвяты час
Вызваленння людзкога настане.
Мо' праз век чалавек
Да вялікаго жыцця устане.
Без бяды, без жуды
Будзе жыць-панаваць, весяліцца;
А для нас—цяжкі час—
І чакаць, і цярпець, і маліцца...

* * *

*З. Б-ку.*

Хрыстос нарадзіуся! Хрыстос нарадзіуся!
Сьпеваюць у небі Анелі:
Збавіцель для сьвету на сьвеці зьявіуся.
Збавіцель, якога ні мелі!

„Хрыстос нарадзіуся!“ Каб гэтая прауда
Зысьцілася, браце, сягоння...
Каб устала на сьвеці вялікая Прауда,
Што крыуду у цемры прагоне.

„Хрыстос нарадзіуся!“ Ці-ж мала мы чулі
Такую з нябес абецанку?
А вочы свае ледзь ад сну разамкнулі,—
Німа і ні відна паранку!

„Хрыстос нарадзіуся!“ А дзе-ж яго знакі?
Цяпер я Тамаш і ні веру.
Здаецца мне сьвет, як і быу, адзінакі,
А у ім матаванне над меру.

„Хрыстос нарадзіуся!“ Не, хіба што будзе
Яго нараджэнне. Мы знаем,
Яго дачакаюцца іншыя людзі,—
Ні мы дачакаем.

# Малітва.

Я бачыу: Сын Яго стаяу
На пушчы і маліуся,
І словы у гневі прамауляу,
А твар сьлязьмі абліуся.
— «Ах, дай мне, Ойчэ, моцных слоу!
Маланак слоу, палючых,
Бо кроу мая сачыцца зноу
Із ранау тых балючых...
Дзівіся, Пане, слабы Я,
Саусім ні маю сілы;
Гарыць, баліць душа мая,—
О дай жа моцы, Мілы!
Паглянь: паусюдах с краю у край
Рабунак, глуз пануюць,
І льецца сьмех тых чорных зграй,
І усе з зямлей раунуюць.
Зірні: дзе пекнасьць тая, што
Надау нам, Міласьцівы?
Тваіх правоу трымае хто,
Братэрства, згоды хцівы?
Схініся к нам Ты і абач:
З гадзінай горш жывецца,
Цяжэе боль, мацнее плач,
Галоу усе болі гнецца.
Паслухай ноччу, у дзень, Сьвяты,
Скажы маучаці звонам,—
І колькі жальб пачуеш Ты!
Зямля азвецца стогнам...
Узглянь: навокал чорны сьвет,
Прыцьмено прауды слонцо,
Надзеі у людзях болей нет,—
Пашлі-ж ім Абаронца!
Ах, дай мне, Божэ, гэткіх слоу,

Зямля-б ад іх траслася!
Баляць бо раны Мае зноу
І кроу з іх палілася...
Пашлю тады маланкі у люд
У безшчасны той брадзіці.
Блішчэць, яскравець там і тут,
Праудзівы гнеу будзіці.
Мільены кіну пяруноу
У тых, каго Я знаю,
У тых, маю што сочуць кроу,
У тую чорну зграю.
Тагды ізноу. як колькі раз
На сьвеці ужо бывала,
Настане Твой вялікі час,
Твая засьвеціць хвала.
Малюся-ж, — дай Мне гэтых слоу!
Сцаліш Мяне, паможаш;
Гарыць душа, баліць ізноу...
Вялікі! дай, як можаш!

# Поэту.

Што кажаш мне, поэт, а праудзі тэй, што будзе?
Мне сэрцо кроіцца ад крыуды нашых дзен!
А бачу добра й сам: ідуць да прауды людзі,
Расьцець яе жаунер і шырыцца загон
Марудна, братачка! І покуль сонцо узыйдзе,
Дык вочы выесьць нам салоная раса,
І покуль першы дзень людзкога шчасьця прыйдзе,
Мільены сэрц праткне гароты злой каса.

Пакінь, пакінь сьпеваць а праудзі тэй, што у небе!
Яна чужая нам, таемных прауда сіл;
Яна ні сходзіць к нам у канечнае патрэбе,
Калі пакуты дзень так довяг і ні міл!

Прашу цябе, мой брат, сьпевай аб нашым горы,
Аб тым, што есьць цяпер і што дауней было,
І што на усякі твар кладзець, як плуг, разоры,
І што у мільенах душ разоры правяло.
Прашу цябе, сьпевай аб горы песьнь адну ты
І наш гаротны льос рабі ящчэ цяжэй,
Тагды, убачыш сам, парвуцца духа путы
І будзе ясны дзень да нас тагды бліжэй.

# Слабасьці.

Ніхай душы, каторай Бог надау любоу,
Праклены--грэх,—аб гэтым буду знаць я!
Кляну цябе, кляну цябе ізноу і зноу,
І буду праклінаць я.
То ж ты ка мне прыйшла, як волю адабрау
Тыран маю, скуу цело ланцугамі,
І думкі вольныя з душы павыдзірау,
І растаптау нагамі!
То ж ты прыйшла тагды і стала ля вакна
І у вочы мне зірнула ціраз краты,
Ты, подлая, ніхто, як ты адна,
Ты будзь праклята!
То-ж ты мяне, як маці, моцна абняла,
Сьлязой споучуцця бледны твар абліла,
Што хвіля ясных зор, сьвятых ахвяр прайшла,—
Ты гэта гаварыла!
То-ж ты казала мне, каб я, хаця на час,
Зьмірыуся бы, пакуль тыран катуе,
А ен усе гняцець! Душыу ні толькі нас,—
На усіх лютце!
То-ж ты шэптала мне: „успомні, што ты сын,
Пацеха старасьці“. Калола грудзі
Мне тым. А дзе закон:—«ідзі, свой дом пакінь
І родных людзі?»
То-ж ты аблутала душу ганебным сном
І вось яна: гатовая магіла.
Замест жывой зямлі кладуць труну з мярцом...
То-ж ты зрабіла!
Пусьці ж, абрыдлая, с тваіх ласкавых шпон,
Ніхай памру, калі ні буду жыу я,
Абы мне споуніці сьвяты жыцця закон,
Абы ні згніу я!

# Жыцце.

Жывець спакойна вол пад тым ярмом сваім,
Намуляу карк. Мазолі, скрозь мазолі!
Падкінуць сена жмут—яму й таго даволі,
І льос мізэрны свой ні назаве благім.

Цярпліва зносіць ен нівыгады жыцця:
Ніхай яго часамі злаюць ліха,
Хай сьвішчэ страшны біч,—пакорліва і ціха
Ідзе разораю. Кіруе ім дзіця.

Жыві-ж, спакойна, вол, хадзі у сваім ярме,
Цягай плугі і лій свой пот на пана,
Хаця ні ведаеш, якая рэч пашана.
На што яна табе? Сьляпому добра у цьме,
Лягчэй ісьці яму дарогаю жабрачай...

А ты—жывелау цар? Ці ж ты жывеш іначай?!..

# Муляру.

—Муляр, слухай! Што кладзеш ты?
—„Дол сьмяротны, бачыш,—склеп.
„От, як скончу усе да рэшты,
„Буду мець рубель на хлеб.“
—Слухай, муляр: пакідай ты
Сьмерці сховы мураваць—
Хай ні знаць іх! Уставай ты,
Пойдзем жыцце будаваць.
Бачыш: людзі, як бездомкі,
Ходзяць скрозь без уласных хат?
Я работнік спрытны, емкі,
Пойдзем муляр, пойдзем, брат!
Возьмем кельні, малаточкі,
Дзьве рыдлеукі, вінкель, шнур,
Гукнем: «людзі, галубочкі!
«Хто ахвочы класьці мур?
«Мур вялікі, вольнай волі,
«Мур высокі да нябес,
«Мур братэрства, роунай долі,
«Мур для радасьці без сьлез?»
От, убачыш, прыйдуць людзі
На успамогу у грамадзе;
Кожан цэглу класьці будзе...
От дзе праца загудзе!
Сьцены зробім чыста, гладка,
Як с крышталю, столь як шкло,
Скажуць людзі: „вось дык хатка!
«Роунай у сьвеці ні было!»
Будзем есьці у гэнай хаці
Смачны, чысты, пульхны хлеб.
Пойдзем, муляр, пойдзем, браце,
Хай другі канчае склеп!

# Вясна.

## I.

Дзе дадуць—зраблю пазыку
І найму сабе музыку,—
Дудара з яго дудою,
Каб іграу ен моцна ею.
    «Грайка, грай! я засьпеваю,
    Што цяпер на сэрцы маю»...
    І дудар ужо іграе,
    Мае сэрцо так сьпевае:
. ..«Прападзі мая жуда,
Усе, што церпіць нібарак,
Усе ністаткі ды беда,—
Я шчарнеу глядзі і так,
    Толькі вус адзін белявы...
    Годзі мучыць! Я хачу
    Сілы, працы і забавы,
    І вяселля уваччу» ..
А с чаго-ж я узбуяуся?
—Бо вясна ідзець да нас:
Як убачыу,—засьмеяуся
І вяселы стау на час....
    Грайка, грай! бо сэрцо скачэ,
    Яму трэба моцна грацы;
    А жуда ніхай паплачэ—
    Час яе і забываць...

II.

... Вясна прыйшла!
Што чакалі, выглядалі,
Да сябе дауно гукалі,—
У бляску сонца, у зеляніне,
У прыгожасьці, у ярыне,
Сама— пекнасьць, сама—сьвято
І прыгожа і багата,
Да нас прыйшла!
    Я вітаю
Яе у сонцы. у зеляніне,
Што на роднай на краіне
Гоніць бляскам сваім ноч,
Гоніць сьнег і хмары проч;
Яна радасьць мне і сьвято,
Ей я дзякую багата
    І вітаю!

# Вецяр.

Вее вецяр вольны,
Хмары шыбка гоніць;
З вадой, зямлей, лесам
Зюкае-гамоніць!
Прыляцеу да рэчкі,
Прылег, прытуліуся,
Крышачку па яснай
Віхрам закруціуся,
Сказау слауцо ласкі,
Сьвіснуу і падняуся
І за хмаркай легкай
Пырхнуу і пагнауся.
Зноу прымчау да лесу:
„О, здароу, мой браце!“
І пайшоу між хвояк
Ен дурэць, гуляці:
Адну пацалуе,
З другой пасьмяецца,
Кіне слоуцо, пару,
Да трэццяй бярэцца..
Годзі ужо у лесе!
Зноу у выш падняуся,
Пакруціуся крыху,
Ды у даль падауся.
Задау гону, пылу,
І у ніз ен рынуу,
Прыпау да зямліцы,
Бытцам дзесь загінуу.
„Ах, мая матуля,
„Як я нагуляуся!
„Бачыу сонцо, месяц,
„У рэчаццы скупауся.

„Хораша на сьвеці!
„Колькі у ім прастору:
„Шыбаеш па рэчцы,
„Прыпадзеш да бору...
„Я хацеу бы болей
„У сьвеці пагуляці,—
„Адпусьці-ж, матуля,
„ Яшчэ палетаці!“
Пэуне, што пусьціла
Вецяр маць гуляці,
Бо падняуся у небо
І пачау сьпеваці...
Вось—ненацкам скончыу
Сьпеваці гуляка,
Гікнуу і панесся
У даль хутчэй за птака.

# У прыпар.

Прыпарыло,
Нахмарыло,
І ударыло!
—Сьвяты Ілля...
Маланка ураз зьявілася,
Мільгнула і звалілася,
І дожджыкам аблілася
Гарачая земля.
Кроплі разам. згодна, жвава,
Пояць усе, што хочэ піць:
Збожжо, дрэвы, кветкі, травы,
Вулкі хочуць затапіць,
Бьюць у стрэхі, мыюць шыбы,
Мыюць хаты, мочуць сад,
У рэчцэ спожыу маюць рыбы...
— Хто у прыпар дажджу ні рад?
Сьцішаецца,
Зьменшаецца,
Унімаецца.
—Німа!
І слонко паказалося,
Мауляу, само купалося;
Прыемна усьміхаецца,
Блішчыць, пераліваецца,
Яскрава адбіваецца
На трауцы, на лісточку,
У рэчцы, у роучачочку,
На вулачцэ, у садочку,
Зямля уздыхае поунымі,
Шчасьлівымі, чароунымі
Грудзямі усіма.

# Добрыя дзеці.

Паставілі дзеці сіло. Верабья
Хацелі злавіць на пацеху.
Злавілі сінічку, крычаць: вой-я-я!
А радасьці колькі, а сьмеху!
Імчацца да маткі:—„Сінічка, глядзі!“
—„А дзе-ж вы узялі?“—„Злавілі,
Дастань ты ей клетку, хутчэй пасадзі“
—„Нідобра вы, дзеткі, зрабілі!“
—„Мы будзем яе і паіць і карміць,
Сьпевала-б нам птушка прыгожа“. .
—„Ах, дзеткі! у няволі яна замаучыць,
Сьпеваць у няволі ні можэ...
Успомніце толькі, як нудна сядзець,
Як с хаты мароз ні пушчае.
То-ж дзень, вам здаецца, як тыдзень ідзець,
Хоць я і усяк разважаю.
А птушку вы хочаце с хаткі яе
Узяць, пасадзіць у чужую . .
Ні мучце, пусьціце, рыбулькі мае,
На волю яе залатую.“
І матчыны словы у сэрцах дзяцей
Ласкавыя струны кранулі,
І добрыя дзеці—прыклад для людзей!—
Сініцы свабоду вярнулі.

# Салавейка.

Салавейку узялі ды з гаю
Пасадзілі у клетку за краты.
У маю
Тэй страты
Найцяжэйшай дазнау салауюшка.

Распусьціуся лісток на дубочку,
Апранулась зямелька у краскі;
А у ночку,
А з ласкі,
Ні сьпевае ніхто над рачушкай.

Ой, чаму-ж, салавейка, ты болі
Чараунічых сьпявоу ні счынаеш?
Што волі
Ні маеш
І сьпеваці ні будзеш ніколі?

# Дзеучаці.

Цябе спаткау, і сам ні знаю,
Ад сэрца шчыраго кажу,
Якую, дзеуча, думку маю
І сьпеу аб тым які злажу.
    Здаецца, нешта ускаланула
    У душы маей ты ніузнарок,
    Былога струны закранула,—
    Зьвіняць ледзь чутна аддалек.
Ці-ж будзе час, што нам спаткацца
Яшчэ раз здарыцца калі,
І струны сэрца разбрымяцца
У тыя песьні, што былі?
    Ніхто ні скажэ! Толькі знаю
    І ні утаюся ад цябе:
    Ніхай цябе я ні спаткаю,—
    Пакінеш сьлед ты па сабе.
І у час, калі, гадзінай шарай,
Сярод безлюдздзя, пустаты,
Нуда абляжэць чорнай хмарай,
Праменнем сонца будзеш ты!

# Асенні сынеу.

Пойдзем, каханачка, двое
У лес у густы,
Ціхі, бо скончыу свае панаванне;
Жоукне, галее, мураука у ім вяне,
Чарнеюць кусты.

Пойдзем, галубка, пад дубам
Прысядзем, мая.
Гэнам убачым лістоу ападанне,
Шэлест іх сумны пачуем, шэптанне,
І звоны ручья.

Будзем адны мы на сьвеці
С табою, адны
Тыя, што прыйдзем у часе скanання
Беднаму лесу сказаць на жэгнанне:
— «Да новай вясны!»

# Песьня.

Прыказало слонцо ветру
    Перастаці,
Прамауляло: „Годзі, ветрэ,
    Бусаваці“.
Прамауляло: „дай жывелам
    Адпачынку,
Перастань-жа, ветрэ, дзьмуці
    Без упынку“.
І узыйшло у бліскучай шаці
    Залатое
І пястуець любым вокам
    Усе жывое.
Ні сядзіцца ветру у хаці—
    Быстраходу,
Ні уцерпіу, узьняуся бурай
    Ад заходу.
Карагоды хмар па небі
    Панясьліся,
Паліліся з неба сьлезы,
    Паліліся ..

Прамауляла дзеуча сэрцу—
    Нінаглядзе:
„Ні хадзі ты вішні есьці
    У чужым садзе.
Ні хадзі к другой у залеты
    Ні удавайся,
У другія вочкі любы
    Ні углядайся“.
Лугавой лялеяй дзеуча
    Расквітала,
Цалавала сваю уцеху—
    Мілавала.

А ніверны той удауся
За другою,—
З млынароунай пахаджае
Над ракою.
З млынароунай жарты строіць
Каля млына,
А дзяучынка сохне, вяне,
Як галіна...

Ой, з-за хмарак ясно слонцо
Йшчэ узыйдзе,
Да дзяучынкі-ж любы у вечар
Больш ні прыйдзе.

# Хаутуры.

Ні у звоны хаутурныя служка прабіу,
Як хавау я дзяучыну, катору любіу.
Ні на могілкі людзі кахану нясьлі,
А у цэркву баяры яе павязьлі.
Ні халоднай зямлей засыпалась труна,
А другому любіць прысягалась яна.
Ні пяшчаны над ей вывадзілі капец,
А вясельныя дружкі трымалі вянец.
І ні плакала матка, што умерла дачка,—
Цалавала жанулька свайго мужалька!
Ні асінавы кол я над ей забівау,
А старэнькі дзячок доугалецце сьпевау...

*У зб. „Новая песьня“.*

# Мяцеліца.

Ой, спаліце, пяруны,
Майго Янку, бо дурны!
Назаляе толькі мне,
А каб сватацца, дык не!
 Я казала, дый ні раз:
 Прысылай сватоу да нас;
 Татка добры, ен аддасьць,
 У пасаг—цялушку дасьць.
А той Янка, той благі,
Усе сьмяецца—„гі-гі-гі!“
Да таго-ж часамі кпіць:
„Ну, чаго табе карціць?“
 Ой, пралійцеся дажджы,
 А ты, Яначка, пажджы:
 Учыню табе бяду
 За нікога ні пайду!

# Два каханні.

У аднэй Марылі, маладой дзяучыны,
Быу каханак Яська, вагнявы хлапчына.
Што ні вечар прыйдзе, што ні ночка стане,
А у іх у садочку аб адным шэптанне:
«Да душы,—Марыля свайму Янку кажэ,—
Хіба сьмерць без часу нас с табой развяжэ».
—«Ні кажы ніпрауды.—малайчына вучыць—
Нас ні Бог, ні людзі і ні сьмерць разлучаць».
І сядзяць і шэпчуць да зары-сьвітання,
Былі вішні у садзе сьведкі мілавання...
А настау дзянечак—да Марылі у сваты
Прыляцеу панічык, шляхцючок багаты,
І дзявоччо сэрцо,—ах, слабое, знана!—
Перайшло ад Яся да другога пана.
Хіба-ж Ясь заплакау?—Ні с таго дзесятку!
Пакахау другую, пакахау Агатку.
І цяпер, як цемязь западзе над вескай,
Ен сядзіць з Агаткай пад старой бярозкай;
Пралятаюць змрокі ніусьцярэжна хутка
І уся ноч здаецца, як адна мінутка!

А жыла-ж Антоля,—мусіць мела долю,
Ды згубіла долю у шырокаму полю.
Мела двух прыгожых, мела двух каханкау,
І адзін быу Янка і другі быу Янка.
(Дзьве душы ніродных у адным целі жылі
І дзяучыну кожна паасоб любілі).
Адзін с шчырым сэрцам, а другі з ніверным,
Надарылі дзеуку жалям ніпамерным.
Як адзін цалуе, нінагляду песьціць,
Дык другі мяркуе, якбы абезчэсьціць.
Як адзін у садочку з любай пахаджае,

То другі у прочкі у думцы ад'ежджае
Як адзін бажыуся, абецау жаніцца,
То другі у лыжцы жычыу утапіцца.
І у канцыся стало, чаму было стаці:
Прычытала маці над дачкой у хаці:
«Ах, мая дачушка! А мая-ж рыбулька.
А мая-ж ты птушка, а мая-ж зязюлька!
А чаму-ж ты, доню, губкі сашчаміла?
А чаму-ж ты, дзеткі, вочанькі закрыла?
А чаму, дачухна, міла ні усьміхнешся?
А чаму, красухна, мне ні адгукнешся?
Што-ж табе ні добра, што-ж было ні міла?
Ці ж тваю галоуку ні сама я мыла?
Ці-ж тваю сарочку ні сама я ткала?
Ці-ж тваеі сьмерткі я, скажы, чэкала?»...
Так было з Антоляй, што ні мела долі,
Ці згубіла долю у каласістум полю.
Як жа тыя злыдні? Хоць адзін шкадуе?
Э! адзін часамі, а другі ганьбуе.
Як былі-ж абодва у ядыным целі,
Дык жаніуся Янка і згуляу вяселле.

# Казка.

„Што, дзеучаткі, парабочкі,
Казку вам сказаці?
Ну, якую-ж проці ночкі
Лепі нагадаці?...
    Добра!... Слухайце уважна,
    Ні перабіваці!
    Сядзьце чынам і паважна,
    Кіньце блазнаваці!
За ваконцам вецяр свішчэ,
Як ваучына вые.
Ведзьмы справілі ігрышчо,
Ведзьмы маладыя.
    У хаці цемна, ціха, смутна,
    Цяжка а тужліва,
    Уздыхае хтось пакутна,
    Неяк сіратліва.
Удовай бабкі сын прыгожы
Сеу каля ваконца,
Чымсь-ці хворы, спаць ні можэ,
Выглядае сонца.
    Ведзьмы скачуць і гуляюць,
    Зірк у вакно: хлапчына!
    У ваконцо барабанюць:
    „Выйдзі, малайчына!“
Выйшоу. Чуе нехта плачэ,
Ціха нехта клічэ:
«Сюды, сэрцо! Гэй, бурлачэ,
Пакажы абліччо!»
    Йдзець. На прызьбе каля хаты
    Бачыць: маладзіца,
    Пекнай уроды, строй багаты,
    Ясны, аж мігціцца.

Стау і словам ні азвецца,
Моцна задзіулены,
А яна—дык проста рвецца:
«Мілы! улюблены!»

„Сядзь-жа поруч, ні цурайся,
Ды любі мяне ты.
Ты ж наблутау, ні сьпірайся,
На мяне цянеты.“

Сеу хлапец нісамавіты,
З ведзьмаю абняуся,
Вецяр, злога прагавіты,
Роу і ні спыняуся.

Рукі белы аплятаюць,
Уюцца каля шыі;
Кроу прыціскі калатаюць...
Вецяр свішчэ, вые.

Потым палкім пацалункам
У вусны упілася...
Сэрцо смокчэ... і з рабункам
У віхры паняслася.

А дзяціна так ля дому
І сядзець застауся...
Ведзьмы вобраз маладому
Доуга успамінауся.

Як успомніць—сэрцо рвецца
Проста у скумацце,
Да нічога ні прыткнецца,
Усе сядзіць у хаце.

І канец. А ведзьма? Можэ
Да другога ходзіць,
Маладая ды прыгожа
Жарцікі разводзіць.

# Хатка.

Там, дзе сумна с краю бора
У тры ваконцы сьвеціць хатка,
І з лясной травой гаворэ
Буракоу і бульбы градка;
Дзе жауцеюць тры загоны,
А на кожным па дубочку,
Ціха шэпчэ бор зялены
І глядзіцца у ручаечку;
Дзе чутно, як сонцо грае
На праменнях сьвету горда
І ніколі ні зьмірае
Зык шчасьліваго акорда,—
У тэй хатцы, пры тым боры
Асялілісь аж тры горы:
Сын дауно пайшоу у жаунерку,
Хоць, здаецца, меу ен льготы...
Ах, згубілі Казімерку
У жаунерцы тэй сухоты!
Доню мелі... Божжа воля!
Выйшла замуж, ен пьяніца...
Што падзееш? мусіць доля!..
І памерла белаліца.
Мелі мейсцо Хлеб трымауся,
Быу рызман, хаця і зрэбны,
Пан лясьнічы штосьць узлавауся:
„Вы мне, кажэ, ніпатрэбны“...
Аж тры жалі, аж тры горы,
Там у хатцэ, там пры боры!

*У зборнік «Новая песьня».*

# Габруська

Габруся у жаунерку узялі,
Ад дамоуства адарвалі.
Ой, Габруська, Габруська!
Зажурыуся стары татка,
Стогне цяжка, плачэ матка:
Ой, Габруська, Габруська!
Залілася сьлязьмі люба:
—Ні запомні мой галубе,
Мой Габруська, Габруська!
Муштравалі у войску строга,
Ні давалі думаць многа.
Ой, Габруська, Габруська!
Дзяцюково сэрцо бьецца,
Бацьку успомніць—скаланецца.
Ой, Габруська, Габруська!
Дзяцюковы думкі уюцца.—
Матку успомніць, сьлезы льюцца.
Ой, Габруська, Габруська!
А дамовы вецяр вее.
Любу успомніць—абамлее.
Ой, Габруська, Габруська!
Захварэу Габрусь на службе,—
Ліст пісаці кажэ дружбе.
Ой, Габруська, Габруська!
«Ні чакайце мяне у хаці,
Час прыйшоу мне паміраці».
Ой, Габруська, Габруська!
Ой, сканау Габрусь у чужыне,
Жаль учыніу сваей радзіне.
Ой, Габруська, Габруська!
Засмуціу ен сваю любу:
—С кім пайду цяпер да шлюбу,
Мой Габруська, Габруська?!

# Жэбрачка

Дайце кавалачак хлеба ей цьмянаго,
Дайце пуховаго,—дзе-ж ей узяць?
Што яна возьме з жыцця безталаннаго?
Дайце, што можыце даць!

Гора памела на сьвеці убогая!
Гляньце: згрыбела, згарбела у крук.
Доля занатта надалася строгая, —
Выбіла шчасьце усе з рук.

Была дзяучынаю, была красуняю,
Была вагонь, ні глядзі дзяцюкі!
Углянеш—і сэрцо праймецца, як куляю;
Мелі пацеху бацькі.

Час надышоу і была гаспадынею,
Быу гаспадар багатыр на сяле;
Была над мужам царыцай, княгіняю,
— Бог калі шчасьце пашле!

Была і маткаю, была шчасьліваю,
Двох аднагодкау Вялікі ей дау:
Сына малойца, дачку урадлівую,
— Скуль дзе і сват пад'ежджау.

Мела Нупрэіха, мела бездольная!
Дзе-ж гэта дзелося, як уплыло?
Што-ж, сірацінка, быліца ты польная,
Што учынілось, было?

—«Ой мае дзетачкі, Бог мяне грэшную
Пэуне за бацькаускі грэх пакарау.
Крыуду учыніу да згон-веку няуцешную,
Чым надарыу, адабрау.

Неяк асеннай парою а поуначы
Хатку ніведама хто падпаліу.
Я прахапілась, ускрычэла а помачы:
—Людзі! ратуйце, хто жыу!

С крыку майго і сямейка збудзілася,
Ледзьве пасьпелі на двор уцячы.
Доня за рукі мае учапілася,
Просіць: «матуля, маучы!»

Мужа я у гэтым пажары пазбылася:
Кінууся у хату па скарб,—ратаваць,—
Столь падгарэла у той час, абвалілася...
— Бог захацеу пакараць!

Ох! Як пачне калі што руйнавація,—
Што ні рабі ты, а будзе дарма.
Толькі зьнядужаеш, сілаю страцішся,
Скуткау жа добрых німа.

Сын у Сыбір, ці ішчэ за Сыбірамі,
Недзе пайшоу на жыцце зарабляць,
Разам з дачушкай пайшла я пад дзьверамі
На пагарэлых зьбіраць.

Дочка ад часу пажэжы праклятае
Чымсь захварэла, ніведама чым;
Сохла, бляднела, як зелейко сьцятае,
Покі ні умерла саусім.

З воласьці мела паперу пісаную:
Сына маскаль за нівошта забіу.
Нечым зграшыло дзіцятко рахманае,
Ціхі-ж, паважлівы быу...

От і жыву я на сьвеці зязюляю
Тэй сіратлівай, адна наусяды.
Сьмерць ніуздалечку,—свой век перамуляю,
Збудуся цяжкай нуды».

Змоукне,—і сьлезы па твару пакоцяцца, –
Хусткай схісьне іх і далей брыдзе.
Ціха ступае, усім целам калоціцца...
Ах! пашкадуйце у бядзе!

Дайце кавалачак хлеба ей цьмянаго,
Дайце пуховаго! Дзе-ж ей узяць?
Што яна возьме з жыцця безталаннаго?
Дайце, што можыце даць!

Дайце куточак, а дайце-ж ей, мілыя!
З ласкай у хату прыміце яе
Хай адпачне гаратніца пахілая,
Раны пагоіць свае.

# Сын.

Гэй, у чыстым полі ды ні сонцо грэе,
Дый ні сонцо грэе, ды ні вецяр вее,
Ні туман спусьціуся,
Ні дубок схіліуся.
На шырокім полі, ды па тым прасторы,
Ля дарогі самай, на зяленым узгоры
З ног дзяцюк зваліуся,
Бразнууся, пабіуся.
—Ці-ж ні сорам, хлопчэ, табе маладому?
Ганіць будуць людзі, едучы да дому:
„А ты-ж маладзенькі
Піці нідужэнькі!“
—Ой, ні ганьце, людзі,—з гарэлкай ні знауся,—
Я у сьвет далекі за шчасьцем пагнауся,
Ад радзімай маткі
Ды із беднай хаткі.
Ды па усей зямліцы, дзе шыбае воко,
І пад самым небам, доле то-ж глыбока
Быу я, цікавауся,
Шчасьця прыглядауся.
Ні памеу я шчасьця, ды пазнау [illegible] горо
І крыві разлевы, сьлез сіроччых моро,
Скрозь а скрозь гарота,
Дзе ні глянь,—маркота.
І падумау зноу я да хаты вярнуцца,
Да радзонай маткі к сэрцу прыгарнуцца,
Рукі цалаваці,
Сьлезы праліваці,
Каб прыняла сына сваго валацугу,
Каб прыпяставала, адагнала тугу,
Зелейкам паіла,
Раны пагаіла.
От ні маю сілы, ні трымаюць ногі.
Раптам занядужау, пау каля дарогі.
Знаць—ні убачыць маткі,
Ні дайсьці да хаткі!

# Журба і Сьмяхоцце.

«—Брынкні, хлопчэ малады,
У свае цымбалы!
Ты-ж бо, чуу я ад людзей,
Музыкант удалы.
Песьняй емкай зьвесялі,—
Заплачу двузлотку.
Хочаш? Выпій напярод.
Спагані ахвотку!»

— Раз журба с сьмехаццем
Напіліся меду
І пайшлі на кірмаш
Паглядзець народу,
Вось журба й завяла,
Ніуцешна плачэ,
Сьмехацце-ж ля яе
Па дарозі скачэ.
— «Гэй, сястрыца, пакінь
Разліваці сьлезы,
Бо цябе-ж засьмяе
Чалавек цьвярозы.
А-ха-ха! хіхі-хі!
Ну, чаго сястрыца
Ні хапіло табе?“
— «Перастань, дурніца!»
— «Ні сьмяшы ты людзей,
А давай паскачам!»
А журба ішчэ горш
Закацілась плачам.
«А-ха-ха!» «І-ы-ы!“
Па дарозі льюцца;
Йдуць журба с сьмехаццем,

А людцы сьмяюцца
От журба і крычыць:
—«Праз цябе выкпіны»!
Сьмехацце ж ей у адказ:
—«Не, асані вінна!»
—«Праз цябе!» —«Праз цябе!»
Увайшлі у спрэчку,
А у канцы пачалі
Малаціці грэчку.
Тут камар падляцеу:
«Кум з кумой дзярэцца?»
І пачау ля журбы
Акругом вярцецца!
То у нос, то у лоб.
Джыгане—упьецца,
От журба науцек,
Бо німа дзе дзецца.
Сьмехацце ж ні бяжыць,
Даганяць ні хочэ,
А з людзьмі над журбой
Над дурной рагочэ.
От і усе. Калі хто
З вас журбу убачэ,
Дык настрашце яе
Камаровым плачам.
Уцячэць! А цяпер—
Заплаці двузлотку
І кілішачак дай
Прамачыці глотку».

# Спрэчка.

Дзядзька Тодар, два Пранцішкі,
Сват Гілерык, кум Тамаш
Раз у мястэчку Зацьвілішкі
Насьмяшылі увесь кірмаш.
Што было прадаць — прадалі,
Кум Тамаш зьменяу каня.
Покі усе панакуплялі,
Зірк—ай-ей: каля поудня!
—„Прауда, справіліся емка,
Але-ж, хай ты... во, абед“...
—„Ну дык што! Хадзем у карчомку!“,
На суседзяу так сусед.
Узялі кварту. На закуску
Пару узялі тараноу.
Што-ж ім кварта? На затруску!
Узялі квартачку ізноу...
Больш пілі дзядзькі, чым елі:
Квас, гарэлку, піво, мед.
Бытцам чмелі загудзелі,
Як і увесь ля іх народ.
Хоць там словы ледзьве вяжуць,—
Тэй бяды! А што-ж маучаць?
Той што-сь скажэ, той зауважыць,
Кіне чарку наліваць.
Так ад цэнау, бульбы, меры,
Што на рынку хвальш дае,
Зачапілі справы веры,
Дый... шчапілісь за яе!
Гэтта слоу ім ні хапіло,—
Знана веска: словау брак!
Потым, слово—хіба-ж сіла?
Хіба-ж зробіць, як кулак?

От і пляснуу Тодар у вухо
Па суседзку Тамашу,
І паустала завіруха
У карчме на кірмашу.
Кум Гілерык, сват, Пранцішкі,
Тодар,—зьвіліся у клубок...
Усе мястэчко Зацьвілішкі
Раптам зьбеглося у шынок...
Праз гадзіну дзед Ігнацы
Усіх бусайлау тых мірыу:
—Ціж ні сорам гэтак, братцы?
Дзед паважна гаварыу:—
«Ну, на ліхо вам сварыцца?
«З розных верау вы—адны.
«Дзеці гэтае зямліцы,
«Краю гэтаго сыны.
«Вера з жыццем усім даецца,
«Хто іх дау,—яму іх знаць!
«Дурэнь той, хто спадзяецца
Веры сілай паеднаць.
«Мы і так, браткі, зьневагі.
«Досіць мелі ад чужых,
«Каб спрэчацца без развагі.
«Ці ні цешым толькі іх?
«Глузу хіба-ж вы ні мелі?
«Біу чужы вас легка сьмех?
«Эх, вы, шэршні! Эх, вы, чмелі!
«Ну, ні сорам вам?.. Ні грэх?....»

# Каму што.

(*Жарт.*)

У самы жар, у летні час,
Ужо у поудзень, па абедзе,
На заутра у горад, на кірмаш.
Народу цьма ідзець і едзе.
Ну, ехаць добра, хоць пячэ,
Але ж ісьці дык во дзе мука!
А як з паклажаю яшчэ,
Дык то найгоршая дакука.
Хаця каб крышку адпачыць—
Ідзеш, ідзеш, ды трэба сесьці,
Бо пуд ці пару валачыць,
То ні пярынку у жмені несьці.
Калі-ж карчма,—ну, тутка стой!
Тут можна выпіць і паесьці,
А за работай мілай той,
З знаемым гутарку завесьці.
Зыйшліся гэтак у карчме раз
Наш беларус, цыган, хахол,
І неяк трапіло на час,
Што за адзін прыселі стол.
Адзін узяу сябе мядку,
Другі—гарчыну той—поупляшкі,
Пакуль сядзелі у халадку,
Зьвялі знаемство, то-ж ні цяжка
Цыган да гораду сьпяшыу,—
Каня ен добра знау усе вады,—
Купляу, меняуся—ні грашыу,
Купцом на коні давау рады.
Хахол Маучба ішоу з работ,—
Заробак добры меу, багаты,—
Шукау сябра, каб без клапот
Даехаць з ім да роднай хаты.

У горад брыу цяле прадаць
Наш Янка Цьвік, празваннем Дыба:
Падатак мусіу ен аддаць,
А так—цяле самому трэба.
Адно вось так, другое не,—
Сядзяць і зюкаюць паціху,
Ажно глядзі ты, вохці мне!
Зайшлі у спрэчку, клічуць ліхо.
Каб іх на царство узьвялі,
—Аб гэтым здумалі спрэчацца!—
Дык што рабіць-бы пачалі,
Якою працаю займацца?
«Вось я, здаецца, добра-б жыу,
«Гульнуу-бы я тады безпечна,
«С сваім народам бы дружыу,
«Кулеш усе еу бы ды яешні»,
Так кажэ Янка першы наш.
«Ну, дзе твой розум, белавусы?»—
Крычыць Моучба—«саусім німаш
«Між вас разумных, беларусы.
«От, я іначэй бы зрабіу:
«У садку пад вішняю ляжау-бы,
«Увесь урад пры мне-б тут быу,
«А я-бы правіу ды сьпевау-бы.
«А есьці—еу бы с салам хлеб,
«Крышыу галушкі-бы зубамі.
«І сало с салам, і яшчэ-б
«Я сало так-бы еу часамі.»—
—«Каб вас пярун!—крычыць цыган:—
«Абодва варты вы німнога,
«Вунь, той аббіты увесь саган
«Хоць грошык варт, а вы—нічога!
«Каб я папау у каралі,
«Дык мне усе гэта было-б мала.
«С казны-б украу я тры рублі,—
«Украу каня—і... махні драла!»

# Варожба.

*(Засьцянковая аповесьць).*

---

Бліжыцца поунач. У гэтай парэ
Сон пахаджае па панскім дварэ.
Сьпяць, паканчаушы звычайную працу,
Чэлядзь у пекарні, паны у палацу;
Толькі стары вартаунічы Ігнацы
Ходзіць с клякоткай і піпкай сваей:
Двор сьцяражэ ад людзіны ліхой.

Ходзіць стары і мурмочэ пад нос:
— «Ну і пракляты-ж сягоння мароз!
Новы кажух прабірае, пся вера,
Бытцам кажух — ні кажух, а папера!
Брэшэ, ні зломіць старога жаунера,—
Панна Эмілья, хай Бог ей аддасьць,
Вызваліць з гора ні пусьціць прапасьць.

Ценгля, як толькі пачнецца цямнець,
Зараз палынаукі с кухні нясець,
Міла глядзіць і ласкава сьмяецца:
— Хочаце можа, Ігнацы, пагрэцца?—
Гэткі парадак ні усюды вядзецца!
Добрае сэрцо! Павет абыйсьці,
Роуную панні бадай, каб знайсьці...»

Адвэнт на сходзі. Яшчэ да Каляд
Тыдзень астауся адзін акурат.
Небо у зорках і кожна з іх зьяе,
Месяц зялены свой сьвет пасылае,
Легкі марозік за шчокі хапае,
Сьнег пад нагамі прыемна рыпіць,—
Ведае варту Ігнацы,—ні сьпіць.

Панна Эмілья, тым часам сабе
Вечар праводзіць у нейкай журбе:
Нейкія брэдні плятуцца дзяучыні,—
Бытцам яна ні у дварэ ахмістрыня,
Бытцам яна ні жывець у ахвіцыні,
Бытцам яна німа ведама хто,
Хочацца сэрцу ніведама што.

Успомніць мамульку, татульку, свой дом,
Успомніць сябе нівялічкую у ем,
Старшаго брата і няньку-бабульку,
Тэклю, Агатку, Ганульку, Аршульку,
Дауных равесьніц... кароуку Рабульку...
Дзе яно усе? І ні вернеш тых дзен,
Зьнікло, як дым, расплылося, як сон!...

Страшна і успомніць далекі той год,
(Чорным яго называе народ)—
Пошэсьць с касою па сьвеці хадзіла,
Панну Эмілью сіроткай зрабіла.
Родных, сямейку зямлею пакрыла
Доля, нійначай,—у яе усе руццэ:
Узялі паны гадаваць пры дачцэ.

Устане, паходзіць і сядзе ізноу,
Бьецць у галоуку гарачая кроу;
Нейкія у сэрцы парваліся тамы,
Твар то збляднее, то зробіцца у плямы. .
Стане прад Маткай Сьвятой з Вострай Брамы
Просіць: „Прачыстая, згінуць ні дай.
Горо адкінь, ад бяды захавай!“

Ручкі заломіць і сьлезы цякуць...
Новыя думкі ізноу набягуць,
Жыцце у людзях сабе выкладае.
Цяжкае жыцце! Хаця спагадае
Маткі заступніца,—пані старая,
Пан, як бы родны,—нівесяла жыць!
Час у жалобі,. у маркоц бяжыць.

Хочацца сэрцайку ласкі ні той,—
Хочацца спогадзі панне другой...
Тэкля, Аршулька, Ганулька - малжонкі,
Шлюбныя носяць на пальцах пярсьценкі...
Моліцца панна да уласнай патронкі:
— Панна сьвятая, ты небо умалі,
Вернаго друга мне у жыцці пашлі!—

Потым усьміхнецца прыгожа... Каму?
Ведама,—пэуне, яму аднаму...
Рожы цьвітуць на бялюсінькім твары.
Што-ж тут за цуд і чые-ж гэта чары?
Прауду сказаць?. .—Вінаваты гусары.
Ну, хоць ні усе, дык прынамсі адзін
Панні прычынай маркотных гадзін.

Статны, прыгожы,—праудзівы жаунер,—
Гляне—як сокал! Які ж кавалер!
Майстар на жарты які, на хіхоты.
Як удаецца у шабунькі, у залеты,
Лесткі пушчаць,—навучыся у яго ты!
Як ен часамі умее глядзець;
У танцу які!—ні пазволе сядзець!

Ручку як сьцісьне, на вухо шапне
Слоуцо такое, што й сэрцо замрэ!
Шкода, нідоуга яны пастаялі...
Толькі тры дні усяго балявалі
Гэтта, у дварэ, і паехалі далей.
Рушылі у Вязьму, а стуль пад Маскву.
Чуіць паненка, мауляу, на яву.

Як прад ад'ездам ен цяжка уздыхау;
Помніць—навекі аб ей прысягау,
Як ад'ежджаючы, бачыць, скланіуся...
Прауда-ж? Ці помніць? Ці можа забыуся?
Любіць? Ні любіць?... У другую улюбіуся?
Можа удавау закаханне на жарт?
Трэба аб гэтым спытацца у карт!

Прауда, што адвэнт, і грэх варажба,
Што-ж—калі гоніць у сухоты журба!
Бог міласэрдны ніхай выбачае...
Панна Эмілья у красэлко сядае,
Талью картуе, шэсць карт выкладае,
Семая карта кладзецца пад ніз.
Хітры пасьянс пачынае: „Маркіз“.

—Любіць? ні любіць? Любіу? ні любіу?...
Верным астауся?... Ці верным ні быу?—
Шэпчэ паненка. Пасьянс збунтавауся..
Дзе ж той чырвовы кароль падзевауся?
Мусіць ні любіць!... не, гэты ні удауся!..
Іншы спрабую цяпер разлажыць—...
Час памаленьку бяжыць ды бяжыць.

Поунач прайшла. У дварэ пятухі
Раз прапеялі с-пад цеплай страхі.
Крайчыкам месяц з-за туч выглядае.
Панна Эмілья варожб ні кідае,
Новы, хітрэйшы пасьянс раскладае:
—Любіць, ні любіць. любіу, ашукау.
Верным астауся, ці ім ні бывау?

Рыпнулі дзьверы... І вось на парог...
Паннaчка—зірк!—гэта ж ен, далі Бог!
Палец да губ прылажыу, усьміхнууся,
Дзьверы прымкнуу за сабой, азірнууся.
—Панна чакала, каб я ды-й вярнууся?
Ціха на пальчыках к ей падыйшоу.
Дзеуча адразу ні знойдзе і слоу.

Потым зьдзіуленне крыху адыйшло.
—„Скуль пан узяуся і што прывяло?—“
Гэтак пытае. Урода асанны.
Сам. як ягнятко, ласкавы, рахманы.
—Жыць ні магу без каханае панны!
Мусіць нігдзе ні спаткаю такой...
Дай ты мне шчасьце, вярні мой спакой!—

Рукі злажыу і на коленкі стау,
К ножкам дзеучаці галоукай упау.
Панна Эмілья, смуціушыся гэтым,
Хочэ устаць, адхіснуцца, а дзе там!
Ен ні пушчае і моліць усім сьветам:
„Будзь гаспадыняй, царыцай маей,
Сэрцо зьлячы мне, душу заспакой“.

Што тут рабіць? Гэта-ж могуць пачуць,
Потым у вочы усе засьмяюць:
Панна у ночы госьцяу прымае!
Ручкай гусара с кален падымае;
Просіць устаць, ні крычэць, сунімае,
Сядзіць у крэсло, прыносіць вады...
—Ціха, мой пане, наробіш бяды!

Людзі пачуюць,—нічога табе,—
Сеу дый паехау, і сам па сабе.
Я-ж і на заутра тут мушу астацца;
Будзе ад сораму недзе схавацца,
Людзі пачнуць як навокал сьмеяцца:
«У панны Эмілі есьць кавалер.»—
—Хай ні сьмяюцца! Бо плакаць, павер,

Будуць, паненка, яны над сабой,
Покуль гуляю яшчэ з галавой,
Покуль ні судзіць мне доля прапасьці.
Хіба сама ты захочаш напасьці,
Думкі ні споуніш маеі аб шчасьці.
Ведай: прыехау забраць я цябе,—
У разе-ж нізгоды—застрэліць сябе.

Бачыш, кладу я на стол пісталет:
Коркі падняты, набоі, як сьлед.
Добрая гэта турэцкая штука!
Дзед адабрау на вайне у мамэлюка;
Можа сягоння прыдасца на унука.
Воля твая: разсудзі, выбірай,—
Шчасьцем дары, ці на сьмерць пакарай.—

—Пан ні даеш мне с чаго выбіраць,
Я ні хачу ні судзіць, ні караць!
Як-жа так раптам... ці ж можна, скажэце?
То ж ні гульня, а мы с панам ні дзеці,—
Трэба падумаць ящчэ, паглядзеці—...
— Панна Эмілія, мне ні пярэч!
Хіба ні любіш?... —Ні панская рэч!

Пану да гэтаго дзела німа,
Ведаю думкі свае я сама.
Можа-б любіла, каб гэтак ні ягліу,
Так ні пужау і з адказам ні нагліу,
Быу да паненак ні гэтак павадліу,
Можа-б тагды і пайшла... А цяпер?!—
Панна збляднела, мауляу бы папер;

Хочэ сказаць і баіцца сказаць,
Вочкі спусьціла, павекі дрыжаць...
Той жа гусар, як смала прычапіуся,
Ручку цалуе і с крэсла усхапіуся,
Зноу на каленях у ног апыніуся.
—Слонейко,—просіць,— кажы, ні чакай:
У пекло мне судзіш, ці разам у рай?

Любіш — ні любіш, шкадуеш, ці не,—
Дай жа спакою, ні мучай мяне!—
Сэрцо паненскае, ведама, з воску,
Возьмем мы место, ці зьвернемся у веску.
Толькі-б агоньчык і зараз-жа сьлезку,
Ясную сьлезку на вочко пашле.
Хоча, ні хоча ды й скажэ «але.»

Гэтак і с паннай Эмільяй было.
Нешта ад сэрца к грудзям падыйшло,
Потым у горле клубком перасело,
Бытцам-бы выскачыць сэрцо хацело;
З вочак сьлязінка скацілась нісьмела,
Сьледам другія сьпешаюць ісьці. .
—Люблю,—кажа панна:—люблю... адпусьці!

Ускочыу, падскочыу гусар маладцы
Так, як бы чорт ад сьвянцонай вады.
Рады, сьмяецца і ручкі цалуе.
Пусьціць. абніме, ізноу прымілуе.
Ну, ні раунуючы, моро хвалюе!
Нават апомніцца ей ні дае,
Рупіць зьбірацца, капоцік узьдзяе.

Гасіць лаеуку, вядзець на парог,
Клямку шукае... Ды Бог засьцярог:
Панна зірнула каханку у вочы,--
Так як вуголлі гарацъ сярод ночы...
Верыць – баіцца, ні верыць – ні хочэ.
—Хто тут?—пытае. Ен цягне, маучыць . .
Панна у трывозе тады як ускрычыць:

—Маці Прачыстая! У помач прыдзі!
Згінь ты, шатане,—мара, прападзі!
Згінь, прападзі ты, нічыстая сіла! —
Правай рукою яго ахрысьціла.
Чуе: рука, што трымала, пусьціла.
Прывід той страшны прапау у цемнаце:
—Кінь варажыць у адвэнтовым пасьце!—

Голас чужы з-за дзьвярэй прагрымеу.
Панна. . прачнулась Ліхтар абгарэу,
Мусіць дауно дагарэла лаеука,
Смрод у сьвятліцы... балела галоука.
Ціха праз сені прайшла пакаеука.
Стары гадзіннік паказвае пяць...
—Ах, як заспалася! .. Трэба-ж так спаць!

# Канец Паулючонка.

I.

Ноччу позна, па кірмашу,
Ехау з места Паулючонак,
А празванне меу „Жучонак“,
Гаспадар быу з вескі нашай.
Унучак Паула, сын Антося,
(Той быу к пану дапушчоны)
Баутрамеям быу хрышчоны,
Чалавек быу з мухай у носе.
Едзе у страсе: цемна, ціха...
У дальнім лесе хтось рагочэ...
Уляпіу у цемню вочы,
І здаецца... Што за ліха?
Нехта йдзець сярод гасьцінца,
Пэуне двое, штосьць гамоняць.
„А каго тут чэрці гоняць“ —
Аж падняуся на драбінцэ.
Бачыць: нейкіх аж тры цені
У бок зыйшлі і разам сталі.
Пад'еджае. Усе аддалі
Хвалу Божжаму імено.
— „Хто тут блудзіць?“ запытауся
Баутрамей у ліхой трывозе,
Бо тагды, па той дарозе,
Ні адзін гультай бадзяуся.
— «Старцы, дзядзька! — Кныш, Вароба
С Краснай Долі, Крук Нічыпар“...
— „А бадай-жа вас Люцыпар,
Ці напасьніца хвароба!
Чорт вас водзіць тут, галыткі,
Добрым людзям на спатканне,

Хай вас трасца"... «Годзі, пане!
Час пакінуць звычай брыдкі,—
Кажа Кныш.—Ці ты маленькі,
Што на нас дарма злорэчыш?
—Нам хады ні запярэчыш
Па гасьцінцу. Можа усенькі!"
—„Нас ні лай—Вароба прэціць –
Бачыш ночка: допуст Боскі;
Хоць ні многа верст да вескі,—
А усяго здалееш стрэціць.
Лепш зрабі ты па хрысьцьянску,
Падвязі, памей к нам ласку,
Змардаваліся мы цяжка—
Чым-ся лаяць па-паганску".
—„Вох, разумны дзе знайшоуся!
Хочаш езьдзіць на дурніцу?
Маеш дулю, пане Грыцу!
Ні з такім, браток, зыйшоуся!"
Сьвіснуу пужкай па канечку,
Мэрам бічык, а ні пуга.
„Но, Буланы! Но, шаулюга!
Марнаваць ні сьлед нам ночку".
—„Гэй, суседзе,—Кныш зноу крачэ,—
Дай прысесьці-ж на драбінку!
А у цяжкую гадзінку
Мы заплацім па жабраччу".
—«Ну, ну, як-жа,—маеш збыткі!
Так Баутрук у адказ рагочэ,—
Ходзіць у латах, яшчэ хочэ
Заплаціць; а чым, галыткі?»
Тут Нічыпар рыкнуу басам,
Моуся той мядзьведзь з дубровы,
(Голас надта меу здаровы)
„Падвязі да карчмы, васан!"
—«Што дасьце?»—Баутрук на гэта.
—„Што-ж у нас? Кіі, ружанцы"....

— „Дык прасіце, абадранцы,
Хай лазаты дасьць карэту!“
Ударыу лейцам. Конь падскочыу.
Як падстрэлена казуля.
— „Лепі чорта падвязу я!“
Баутрамей пад нос мурмочэ..

II.

Мрок запау яшчэ цямнейшы,
Хоць калі ты шылам у вочы.
У каляіне гразь хлюпочэ,
А Баутрук цяпер сьмялейшы:
— «Хутка будзем, коню, у хаці,
Скончым нашу райтараду.
Гаспадыня будзець рада.
Выйдзе с хаты спатыкаці!»
Аж цыганскую гаворку
Чуе раптам прад сабою.
Бытцам йдуць яны гурбою
І вядуць аб нечым спорку.
— „От яшчэ ні меу хваробы —
С цыганамі мець спаткання:
Сядзець сам без запытання, —
Зьвесны нораў цыгановы!“
Як ні хочэ ззаду быці,
Конік цягне дробным трусам...
Даганяе, хоць і мусам,
Зраунавауся, — што рабіці!
— Што за дзіво? — Паулючонку
Падкальнуло у сэрцо нешта.
Толькі трое, а дзе рэшта?
Два цыганы йдуць і жонка...
— «Здрастуй, бацьку!» гыркнуу з боку
Цыган доугі, чорнатвары
І другі за ім да пары

І цыганка.—„Скуль, ,здалеку?“
—„Еду с торгу“—„ А, вяльможны!
Падвязі да карчмы хоця,
Бо па гэтакай хлюпоце
Пехатой ісьці ні можна.“
„Рад-бы я, ды сам ты бачыш,
Што на колах, братка, цесна,
Ні усядземся сумесна“...
—«Эй, аб чым ты, бацьку, плачыш!
Цыган, пане, як вужака:
Хоць у шасьцех здалелі-б сесьці!
А ля карчмы хочым зьлесьці,—
Ні замучыцца каняка.»
Ні пасьпеу Баутрук поуслова —
Адказаць па просьбу гэту.
А мужчыны і кабета,
Шась на колы баутруковы!
—«Н-но! Гані сваю шаулюжку!»
«Дадай ходу!» І рагочуць
Штосьць па свойму там стракочуць,
Адабралі лейцы, пужку...
Буркнуу быу на тыя рэчы
Баутрамей, дык—д'ябла дзеці! —
Ледзьвя здолеу усядзеці,—
Так заштурхалі у плечы.
—«Сядзь спакойна, ты, зрэбніна!
Кінь плявудзгаць гэтта лішку:
Выпьеш у карчме тры кілішкі
І заплацім што павінна.»
Што ты зробіш? Німа волі,
Іх-жа сіла, перамога.
Дзякуй толькі Пану Богу,
Ні спаткалося іх болі.
Праз гадзіну,— час кароткі
Баутрамею доугім здауся,—
Сьвет з ваконца паказауся

У корчомцэ пана Ноткі.
—«Ну, вот, бацьку, гаварыу ты!
Зараз зьлезем, купім гары
І заплацім тры таляры
Мы ні любім жаднай крыуды.»

III.

Цесна у карчме—у бочцэ мэрам
Селядцоу, людзей набіта.
Дымам лямпачка спавіта
Тутуневым, едкім, шэрым.
Гоман, грукат, сьмех і спрэчка...
Гэнам граюць, гэтта скокі
Вырабляюць, узяушысь у бокі,
Аж трасуцца сьцены, печка.
Баутрамей спацеу, чырвоны
С цыганамі пьець гарэлку,
Скінуу сьвіту і мяргелку
Выглядае моу шалены.
Мусіць дзюбнуу чарак многа,—
Нешта старцау успамінае,
З іхняй долі выкпівае
І сьмяецца с Пана Бога.
—„От, халеры! Дай ім хлеба,
Дай рызманчык, тое, сее,
Гультаям!... За што, якое?
Суляць ласку Божжу з неба...
Ласку Божжу!... Абібокі!
Мне пуховы хлеб смачнейшы,
У році коле, а сытнейшы,
А нябескі... вох, далекі!
Кажуць, у небі есьць Збавіцель.
Мне здаецца—людзі брэшуць,
Языкі аб зубы чэшуць:
„Есьць Збавіцель, спакусіцель“..

Тут цыган, што быу ля боку,
Лезе проста цалавацца:
—„Можаш с царствам распрауляцца,
У галоуцы маеш кльоку,
Маеш, братка! Мусім выпіць,
Я з бутэлькі выллю рэшту“.
На другіх міргнуушы нешта,
Абмачыу у гарэлцы кіпець.
Баутрамей, як выпіу гэта,
Крэкнуу, плюнуу, аблізнууся...
Цыган хітра усьміхнууся.
—„Прад табою, кажэ, мэта:
Хочаш злота мець, як бруду?
Хочаш срэбрам слаць падлогу?
Хочаш медзі? Дам спрамогу,
Усе дастану, усе здабуду.
Хочаш панам быць прыдворным?
Грапам, князям, дваранінам,
А ні бедным селянінам,
Ні хадзіць у целі чорным?...
Хочаш, браце?... Ну, кажы нам?»
Баутрамей крыху зьмешауся:
—„Я, па праудзі, ні зьбірауся
Быці нейкім кармазынам...“
—„Ен ні думау,—вох прастота!
Хіба ты ужо напіуся?—
Цыган зноу-жа прычапіуся:—
Ты кажы: ці есьць ахвота?“
—„Быці панам... Жыць у дастатку...
Быць у пашане... Усе пазнаці,—
А за гэта... Што вам даці?!“
— «Што? Драбніцу толькі, братку:
Нам душы тваей ні трэба,
Ні бяром цяпер ні у кога.
Адступіся ты ад Бога,
Адступіся ты ад неба.

Згода, слухай? Кажы: „ладна“!
Выпьем разам гарнец меду».
Баутрамей ні учуу падходу
І згадзіуся безаглядна.
Цыган устау з услону важна,
У правы, у левы кут падзьмухау.
—«Ну, цяпер устань і слухай,
І кажы за мной выразна».
Стау Баутрук, зьмяніушысь у твары,
Увесь дрыжыць,—калоціць фэбра,—
Дзеля злота, панства, срэбра,
Прамауляе ціха чары.
С кожным словам улазіць звольна
Сум у душу і страх сьмяротны.
Прамауляе ніахвотны,
Над сабой цяпер ні вольны.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Скончыу цыган.—„Сядзь ягомасьць,—
Кажэ чорны,—скончым дзело,
Пагуляем, братку, сьмела
За прыемную знаемасьць“
Баутрамей вачыма лыпнуу,
Як бы зараз ен прачхнууся.
Глынуу сьліну, папірхнууся.
—„Я за лішне мусіць лыкнуу.
Толькі што я відзеу страхі:
Ясны анел с чорным біуся,
Гром грымеу, а сьвет зацьміуся
І прапалі неба знакі.
Хтось душыу мяне за горло,
Аж пачуу я у вуш‘ю звоны,
Аж цяпер здаюцца шпоны
Тут, на шыі. Дух заперло“...

—„Глупство гэта. Выпьеш болі,
Мары, пане, зараз зьнікнуць,—
Цыган кажэ—нават пікнуць,
Ні адважацца ніколі.“
Выпіу кубак меду поуны
Баутрамей, другім паправіу,
«Ты, цыгане,—кажэ,—правіу.
Што я буду пану роуны.
Буду злота мецъ без ліку,
Срэбрам у хаці біць падлогу,
Дай-жа грошы колькі змога,
Хоць бы тайстру нівяліку».
—«О!.. За гэтым, брат, ні стане,—
Будуць грошы, будзе нанство!
Маеш патэнт на дваранство:
Гэрбу Воука на Кургане.
Маеш грошы: чыстым злотам
Мех скураны вось пабіты.
Ну, цяпер, здаецца, квіты,
Ці чаго яшчэ ахвота?»
—«Дзе, у ліха, больш хацеці?—
Баутрамей у адказ сьмяецца—
Хопіць мне і застанецца
Ашчасьлівіць нават дзеці!»
—«Досыць? Добра! Схочаш болі,
Дзьмухні толькі улева, управа,
Па загаду зробім жвава,
Як ніхто, нігдзе, ніколі.
Віват!—крыкнуу цыган,—слава!
Жычу шчасьця Баутрамею!»
І пайшла у карчме завея,
І пайшла у карчме забава.
Усе сплялося у нейкім віры:
Рукі, твары, плечы, сьвіты,
Кужэль панскі, аксаміты,
Порт мужыцкі, скрыпкі, ліры.

У дзікім тахце рэюць зыкі.
Баутрамей с цыганскай скачэ:
—«Хадзі, імасьць, хадзі, ваша!
Скачы пані!... Чыкі-брыкі!...

## IV.

Цэлу ноч сядзела жонка,—
Муж с кірмашу зараз будзе...
Прывязьлі ей у ранку людзі
Ніжывога Паулючонка.
Ен загінуу, грэшны, блізка,
У дзьвух вярстах ад вескі роднай.
У дрыгве сырой, халоднай,
У вадзе густой і сьлізкай.
Там лежау у асоцэ голы,
Твар абдзерты меу і рукі...
—Гэта, пэуня, чорта штукі,—
Разняслося навакола.

Сто гадоу таму здарэнню,
Можа, нават, больш мінуло.
У зямліцы тры заснуло
Чалавеччых пакаленні,—
Род загінуу Баутрамея.
С часам сьмерць усе выводзіць!
А паданне у весцы ходзіць
І дзядоускім духам вее.

# Шчасьце Мацея.

(*Старадауная казка*).

---

Жыу сабе у сяле Мацей,
Меу шасьцера ен дзяцей,
Сядзеу, бедны, без работы.
Бо ні меу к таму ахвоты.
Красьці ен высьцерагауся,
Знаць астрога крат баяуся.
А шасьцерка дзетак плачэ,
Трэба хлеба ім, адначэ.
Вось ад гэтае нядолі.
Каб нічуці стогнау болі,
Рушыу раз Мацей у дарогу
Проста у рай, к Самому Богу.
Уздумау прауды дапытацца,
Што рабіць, за што узяцца?
Брыу ці многа ен, ці мала,
У лес густы яго прыгнало.
Поу-дня, мусіць, йшоу па лесе
Ды зблудзіуся; нос павесіу,
Сеу пад дрэвам і чакае,
Можа пройдзе хто. Гукае.
Толькі учуу ен: нехта едзе;
Лес трашчыць, як ад мядзьведзя.
Конь капытам так грукочэ...
Уцячы Мацейка хочэ,
Хочэ устаць—ніяк ні можэ...
—Вось беда дзе, моцны Божэ!
Зьліуся потам увесь, трасецца...
Бачыць сьвет к яму нясецца:
Бяжыць, ясны, пекны конь,
Увесь гарыць, мауляу агонь,

Збруя белая раменна
Убрана у золаце адменна;
На кані, узяушысь у бокі,
Чалавек сядзіць высокі,
Пекна надта прыадзеты,
Але быццам с таго сьвету.
Вось узьехау на паляну,
Дзе сядзеу Мацей зьляканы.
Конь спыніуся, стау, чакае,
З воч яго агонь шугае.
«Што сядзіш тут, маладзец?»—
Так спытауся той яздзец;
«Куды брыу, на што сабрауся?»
Мацей духу тут набрауся,
Зірнуу проста па ездца.
«У імя Сына і Айца!!!
«Сьвяты Юрья пэуне гэта:
«Такі с твару, так адзеты,
«Як я бачыу на абразу!»
Пасьмялеу Мацей адразу
Ды й прамовіу да сьвятога:
«Я—Мацей з Бару Крутога.
«Шмат дзяцей, паночку, маю,
«А карміць іх чым—ні знаю.
«Працавау-бы—ні здалеці,
«Бо гультай я у гэтым сьвеці!
«Красьці?—крау бы, дык баюся,
«Бо, крый Божэ, пападуся
«Да пачцівых як людзей,
«Так паходзяць ля грудзей,
«Што жыць стане ніахвота!
«Вось, такія мне клапоты.
«Я і думау, як мне быць,
«Дзе спакой сабе здабыць?
«Ні дайшоу сам да нічога,
«А надумауся—да Бога

«Я пайду і запытаю,
«Што рабіць на сьвеці маю?
«Ды, у лесе во, зблукауся,
«Начаваць у ім сабрауся...
«Вы-ж, паночак, быць павінна,
«У небо едзеце у гасьціны?
«Дык мне ласку там зрабіце.
«Аба мне усе скажыце,
«І аб дзетках маіх разам;
«Што там скажуць? С пераказам
«Сюды едзьце проста у лес.»
— «Добра, добра, ■ увесь
«Для цябе гатоу служыць!
«Як мне толькі ні забыць
«Тое усе, што ты казау?
«Я-б паяс распіразау
«На успамін, —дык меч спадзе,
«Што параіш у бядзе?» —
—«Эт, панок! Я спосаб знаю, —
«Простым розумам параю:
«Каб вам мець перасьцярогу,
«Ні забыцца-б у Пана Бога, —
«Адно стрэмя залатое
«Вы пакіньце мне на тое.
«Помніць будзеце увесь час.,
«Што я тут чакаю вас.»
—«Добра, розуму бярэмя
«Маеш, чалавечэ! Стрэмя
«На, вазьмі мае; сядзі
«Ды чакай мяне, глядзі!» —
І Мацею стрэмя даушы,
Сам паехау, паскакаушы
Зноу па лесе на каню...
Бляск ідзе, мауляу з агню,
Зьяе стрэмя залатое.
—„Вот бы мне яшчэ другое!“

Гэтак думае Мацей:—
«Было-б хлеба для дзяцей»
(Узрос Мацей і жыу без цноты,
Ні было бацьком турботы,—
Дык ні дзіва, што лазаты,
Бэльзэбула сын рагаты,
З гэткай думкай падступіу,
А Мацей яе ухапіу).
Потым стрэмя закапау,
Палажыуся і праспау
Аж да заутра, да поудня ..
Пралупіушы толькі вочы,
Чуе: конь ізноу грукочэ.
Сьвяты Юрья то нясецца.
Мацей у вус сабе сьмяецца.
Многа часу ні чэкау,
Хутка Юры прыскакау;
Конь над ім гуляе, скачэ.
—«Ну, ты, слухай, небарачэ:
«Аб табе с тваею справай
«Я у абедзе за расправай
«Богу усе, як есьць, сказау;
«Пастарауся як зьвязау.
«І як ты жывеш, гаруеш
«І з дзяцьмі сваймі бядуеш;
«Як галаву сваю ламаеш
«І які ты розум маеш!
«Так казау, што ледзь-ні-ледзь
«Сам ні плакау. Адпаведзь
«Бог такую табе даць
«Меу мне міласьць прыказаць:
«Красьці—гэта грэх! Глядзі,
«Ты ніколі ні крадзі!
«Калі-ж будзеш ты што браць
«У людзей, то, каб аддаць,
«Натта рупіцца ні трэба,—

«От і будзеш меці хлеба.
«А то часам і саусім
«Ні аддай нічога ім:
«Я ні ведаю, ні брау...
«Калі ж будуць набівацца,
«Ты ні бойся адпірацца,
«Шчасьце знойдзем так свае.
«А цяперака мае
«Стрэмя зноу ты мне зьвярні».
—«Стрэмя?! Я яго ні брау!
«Хіба-ж пан мне аддавау?!»
—«А ну, як жа,—можа не?»
—«Ні давалі, панок, мне!
«Мо у дарозе дзе згубілі,
«Мо саусім без стрэмя былі?»...
—«Ні кажы, Мацей, пустога,
«Свайго стрэмя залатога
«Я ніколі ні губіу;
«Я пакінуу, як тут быу,
«Ды ад'ежджаць ужо зьбіраууся".
А Мацейка ні спужауся:
—«Ясны пане! мяне маці
«Ні вучыла, каб ілгаці,
«І калі я вам сказау,
«Стрэмя вашаго ні брау,—
«Значыць, так яно і есьць,
«Дайце веры, ваша мосьц.»
Так Мацей выпрысягауся.
Сьвяты Юры паспрэчауся,
Потым бачыць, што дарма
Тут стаяці, што німа
Ужо ніякае надзеі
Вярнуць стрэмя ад Мацея,
Уздыхнуу дый кажэ ціха:
„Ну, ні жычу табе ліха,
«Бог с табою... Спажывай!—

«Дробных дзетак паднімай.
«Хоць... Па праудзі... Каб я знау,
«Стрэмя-б мо табе ні дау.»
І, сказаушы так, сьвяты
Паскакау у лес густы.
Мацей стрэмя адкапау
Ды й за пазуху схавау,
І пайшоу сабе да хаты
І вяселы, і багаты.
Як ен сьцежачку знайшоу,
Як да дому ен прыйшоу,
Як далей ен сабе жыу,
С кім сварыуся, с кім дружыу,
Які у жыццю меу ен цэль,—
Я ні ведаю.—„Круцель!“
На яго казалі людзі.
Хай і гэтак сабе будзе!
Мне ж, калі так ваша ласка,
За маю за гэту казку
Чару меду паднясіце
Ды закускаю дарыце.

# Сьпіс.

Стр.



## Прыявы роднаго.

Литературно-художественное издание

**Гарун Алесь**
**(Прушинский Александр Владимирович)**

**МАТЕРИНСКИЙ ДАР**

Стихи

Факсимильное издание

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Гарун Алесь**
**(Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч)**

**МАТЧЫН ДАР**

Вершы

Факсімільнае выданне

Выданне падрыхтавана па экземпляру,
які захоўваецца ў Барыса Сачанкі

Адказныя за выпуск Л. Я. Прагін, Г. С. Шупенька

ІБ № 3060

Здадзена ў набор 05.11.87. Падп. да друку 30.12.87. Фармат $60\times92^1/_{16}$. Папера афс. № 2. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 8,16. Ум. фарб.-адб. 9,06. Ул.-выд. арк. 4,83. Тыраж 10 000 экз. Зак. 894. Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

$Г\frac{4702120100-037}{М\ 302(03)-88}$ БЗ 242—87

ISBN 5-340-00368-X

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1988